ДОБРАЯ ВЕСТКА Ў ТВАІМ ДОМЕ!
# Каталіцкі ВЕСНІК
№6 (51) чэрвень 2015 год
CATHOLICNEWS.BY



# У Ваўкавыску асвечаны новы касцёл

*Матэрыял чытайце на стар. 10*



## Ці абавязкова насіць крыжык?

*Стар. 11*



## Беларусы ў Камеруне

*Стар. 8*



Каталіцкі ВЕСНІК №6(51) чэрвень 2015 г.

# “Замовіць піцу ў Ватыкан?

## Папа Францішак даў інтэрв’ю



**Пра гэта, і не толькі, гаворыцца ў доўгім і вельмі асабістым інтэрв'ю Папы аргенцінскаму журналісту Хуану Берэта з “La Voz del Pueblo”. Размова адбылася ў нефармальнай абстаноўцы ў доме св. Марты і працягвалася 45 хвілін. Пантыфік распавёў пра свае пачуцці ў дзень выбару на Пасад Святога Пятра, пра свае штодзённыя звычкі, а таксама пра тое, чаго яму ў Ватыкане не хапае...**

### “Ніколі! Ні прэзідэнтам, ні генералам, ні Папам я не марыў стаць!”

Папа Францішак распавёў у прыватнасці пра тое, што ён ніколі не марыў стаць прэзідэнтам, генералам або Папам, хоць “некаторыя дзеці і маюць такія мары”. У 2013 годзе ён таксама не чакаў, што яго выберуць Пераемнікам св. Пятра: “Я меў у кішэні білет у Аргенціну, а на працоўным стале пакінуў няскончанае казанне на Вербную нядзелю!” Святы Айцец таксама адзначыў, што не бачыў тады “моцнага кандыдата” і не ведаў, за каго галасаваць. “1 да 46 – так англійскія букмекеры ацэньвалі мае шанцы стаць Папам”, – смяецца Пантыфік. Яго лічылі асобай, якая можа паўплываць на выбар кардыналаў, пераканаlittleы Папа, аднак ён “і падумаць не мог”, што наміную ць менавіта яго. “Газеты нават не друкавалі маіх фота”, – зноў жартуе Святы Айцец. “На момант выбараў мне было 76, акрамя таго, было шмат на самай справе годных кандыдатаў”, – пераконвае ён.

Хоць Папа Францішак сцвярджае, што “гэта толькі плёткі”, аднак ён быў у спісе “papabili” – верагодных кандыдатаў на Папу – ужо на папярэднім канклаве. Адзін з кардыналаў прызнаўся, што ў 2005 годзе кардынал Берголіа па колькасці галасоў быў другім пасля Ёзэфа Ратцынгера. “Мы выбралі Бэнэдыкта XVI амаль аднагалосна. Было зразумела: Папам стане менавіта ён! Я быў задаволены выбарам”, – распавёў Святы Айцец. У дзень выбараў на Апостальскі Пасад, 13 сакавіка 2013 года, ён адчуваў “вялікі супакой”. Святы Айцец распавёў, што ў момант, калі пачуў вынікі галасавання, маліўся на ружанцы. Запомніў таксама словы свайго сябра, кардынала Клаўдыё Хумеса, за некалькі хвілін да абвяшчэння канчатковых вынікаў: “Святы Дух дзейнічае, Ён пра ўсё паклапоціцца”. Затым яго правялі ў закрыстыю, каб змяніць сутану, і новаабраны Папа ўпершыню з'явіўся на балконе базілікі. “Я адчуваў глыбокі супакой, і словы плылі з сэрца”, – успамінае ён.

### Людзі добра на мяне ўплываюць!

На пытанне аб прычынах яго папулярнасці, Пантыфік адказаў: “Спачатку я не разумеў, чаму так адбываецца. Некаторыя кардыналы мне тлумачылі: “Людзі кажуць: “Мы яго разумеем!”. “Я стараюся быць канкрэтным” Святы Айцец узгадаў аўдыенцыю, падчас якой казаў пра разведзеных бацькоў, што робяць сваіх дзяцей закладнікамі сітуацыі. “Я люблю генеральныя аўдыенцыі, яны мне падабаюцца і з чалавечага, і з духоўнага пункту гледжання. Адчуваю, што маё жыццё запоўнена людзьмі. Я чую людзей. Для мяне гэта вельмі важна. Я стаў святаром, каб быць побач з людзьмі і радуюся гэтаму, – пераканаlittleы Пантыфік. – Псіхалагічна я не магу быць без людзей, не магу жыць самотна. Я быў бы дрэнным манахам”.

Менавіта таму сваёй рэзідэнцыяй ён абраў дом св. Марты. “У доме св. Марты – 120 пакояў. 40 чалавек жывуць тут кожны дзень. Яны працуюць у Ватыкане. Мне вельмі падабаецца харчавацца ў агульнай сталовай. Чатыры разы на тыдзень мы сустракаемся на св. Імшы”, – распавядае Пантыфік.

Святы Айцец кажа, што яму не хапае “выхадаў на піцу” і “спакою доўгіх шпацыраў па вуліцах горада”. Рэпарцёр запэўніў, што піцу можна замовіць і ў Ватыкан, а на гэта Пантыфік адказаў: “Замовіць піцу ў Ватыкан? Гэта не тое!”

“Праўда, я наведваю парафіі, і не магу выйсці на шпацыр, – кажа ён. – Толькі ўявіце, што б пачало адбывацца, калі б Папа ўсё ж вырашыў прагуляцца па горадзе”... Ён распавёў, як аднойчы адправіўся ў горад толькі з кіроўцам і забыўся зачыніць акно аўтамабіля. Падняўся шум, калі мінакі ўбачылі, што ўнутры Папа Рымскі, сабралася такая колькасць людзей, што аўтамабіль не мог рухацца далей.

Папа Францішак ужыў да сябе іспанскае слова “callejero” – чалавек горада. “Горад мяне зачароўвае. Глыбока ў душы я – жыхар горада. Я не змог бы жыць у вёсцы”, – пераконвае ён. У Аргенціне ён часта ездзіў грамадскім транспартам, гэта дапамагала яму “зразумець, чым жыве горад”.

Святы Айцец прызнаецца: пратаколы не любіць! Ён ведае, што яго абвінавачваюць у “адсутнасці дысцыпліны”. Але, нягледзячы на тое, што лічыць “пратакол халодным”, спрабуе яго выконваць цалкам падчас афіцыйных сустрэч.

### Дзень пачынаецца а 4.00!

Пантыфік распавёў, што звычайна ён ідзе да ложка а дзявятай, чытае да дзесяці, калі адчувае, што вочы стаміліся, закрывае кнігу. Цяпер, напрыклад, Папа Францішак чытае творы св. Сільвана з Афона. Спіць Пантыфік шэсць гадзін за суткі. “Гэтага цалкам дастаткова”, – кажа ён. – Я прачынаюся без будзільніка”, – працягвае Пантыфік. Раніцай не больш за 10 хвілін Папа чытае штодзённую “La Repubblica”, паколькі гэтая газета апісвае жыццё людзей “сярэдняга класа”. Ён таксама аднаўляе сілы дзякуючы адпачынку пасля абеду: “Без гэтага адпачынку я пакутую!”. Папа засынае на сорак хвілін ці нават на гадзіну. “Павінен зняць абутак і прылегчы”, – дзеліцца Пантыфік.

Ужо 25 гадоў Папа не

# Папа Францішак сустрэўся з Уладзімірам Пуціным



**Вечарам 10 чэрвеня ў Ватыкан прыбыў Прэзідэнт Расійскай Федэрацыі Уладзімір Пуцін.**

Прэфект Папскага дому арцыбіскуп Георг Генсвайн сустрэў палітыка ў двары Апостальскага палаца і праводзіў на сустрэчу з Папам Францішкам. Яна працягвалася каля 50 хвілін. Як і чакалася, размова была прысвечана дзвюм цэнтральным тэмам: канфліктам на Украіне і на Блізкім Усходзе.

Святы Айцец заўважыў, што неабходна прыкласці шчырыя і значныя намаганні для дасягнення міру на Украіне і нагадаў пра важнасць аднаўлення атмасферы дыялогу і выканання ўсімі бакамі абавязацельстваў Мінскіх пагадненняў. Неабходным таксама з'яўляецца вырашэнне складанай гуманітарнай сітуацыі, правядзенне, сярод іншага, гуманітарных місій пры садзейнічанні ўсіх бакоў з мэтай паступовай стабілізацыі сітуацыі ў рэгіёне.

Адносна канфліктаў на Блізкім Усходзе, у прыватнасці, у Сірыі і Іраку, Папа Францішак і Уладзімір Пуцін пацвердзілі неабходнасць прыняцця тэрміновых мер для дасягнення міру пры ўдзеле ўсёй міжнароднай супольнасці і забеспячэння неабходных умоваў жыцця для ўсіх пластоў грамадства, уключаючы рэлігійныя меншасці, у прыватнасці, хрысціян.



У якасці падарунка Прэзідэнт Расіі ўручыў Святому Айцу вышытую выяву храма Хрыста Збаўцы ў Маскве, а Папа – медальён з выявай Анёла супакою і асобнік апостальскай адгартацыі “Evangelii gaudium”.

У той час, калі Папа Францішак сустракаўся з Уладзімірам Пуціным, сакратар Святога Пасаду па адносінах з дзяржавамі правеў сустрэчы са сваім расійскім калегам Сяргеем Лаўровым.

*Паводле Ватыканскага радыё*

# Гэта не тое!”

## аргенцінскай газеце “La Voz del Pueblo”

глядзіць тэлебачанне, бо “паабяцаў Маці Божай з гары Кармэль”. Вядома, што Папа – заўзятар футбольнага клуба “Сан Ларэнца” з Буэнас-Айрэса. Матчаў улюбёнай каманды ён таксама не глядзіць. Тут на дапамогу прыходзіць... Швейцарская гвардыя. “Хто-небудзь з хлопцаў прыносіць мне газету з вынікамі матчаў і турнірнай табліцай штотыдзень”, – кажа Папа.

### Папа Францішак плача?

Святы Айцец некалькі разоў казаў пра “дар слёз”, “здольнасць спачуваць”, таму карэспандэнт спытаў пра тое, што можа прымусіць плакаць Папу. Пантыфік распавёў, што не можа заставацца абыякавым да чалавечага гора – “чалавечых драм”. Ён прывёў прыклад апошняй сітуацыі з бежанцамі Рохінджа з М’янмы. “Яны адправіліся на лодках у адкрытае мора. Калі падышлі да ўзбярэжжа, атрымалі трохі вады і ежы і былі адпраўлены зноў у плаванне. Тысячы людзей правялі некалькі тыдняў у адкрытым моры”.

Невылечна хворыя дзеці могуць выклікаць слёзы Папы: “Гэта разбівае маё сэрца і дзівіць да глыбіні душы”. “У такіх сітуацыях я пытаюся ў Бога: “Госпадзе, чаму яны, чаму не я?” Святы Айцец кажа: “Я плачу ўнутры”. Папа прызнаўся, што ён ледзь не плакаў, калі нядаўна казаў пра пераслед хрысціянаў у Іраку. “Я не плачу на людзях”, – кажа ён. Журналіст спытаў, чаму Папа не хоча, каб яго бачылі са слязамі на вачах? “Не ведаю, – адказаў Святы Айцец. – Адчуваю, што павінен ісці далей, валодаць сабой, panаваць над сітуацыяй”.

Установы для выхавання непаўналетніх злачынцаў і турмы таксама не могуць пакідаць абыякавымі, лічыць Пантыфік. Знаходзячыся са зняволенымі, ён вяртаецца да думкі: “І я мог бы тут быць”. “Ніхто не можа быць упэўнены, што ніколі не зрабіў бы злачынства, за якое можна быць вязнем”, – перакананы ён. – Я пытаюся ў сябе: “Чаму я павінен мець у жыцці тое, чаго не было ў іх?”

### Чаго баіцца Папа Рымскі?

“Я цалкам не адчуваю страху. Я – чалавек рашучы. Я часта дзейнічаю, не думаючы пра наступствы”, – распавядае пра сябе Пантыфік. Адносна верагоднага замаху, Папа спакойны: “Я ў руках Божых”, – кажа ён. Папа ўсведамляе, што гэта часта з’яўляецца “прычынай галаўнога болю”, бо часам ён можа сказаць “больш, чым варта”. Францішак распавёў: “Заўсёды ёсць рызыка, што мае словы будуць вырваныя з кантэксту”. “Часта праблемы ўзнікаюць таму, што я нешта сказаў або чагосьці не сказаў. Да прыкладу, падчас майго візіту ў адну з парафій Остыі сустрэчу з асобамі пажылога ўзросту арганізавалі ў школьнай спартзале. Я адзначыў, што выглядае вельмі цікава, калі састарэлыя збіраюцца ў месцы, дзе звычайна праводзіць час моладзь. “Я вас разумею, я таксама ўжо стары. Маю свае хваробы і адчуваю боль”, – звярнуўся я да сабраных. На наступны дзень усе газеты напісалі: “Папа Францішак прызнаў, што ён хворы”.

Святы Айцец прызнаецца, аднак, што баіцца фізічных пакут: “Я змагу вытрымаць маральныя пакуты, маральны боль, але не магу трываць болю фізічнага. Магчыма, прычына ў тым, што я перанёс аперацыю на лёгкіх у 19 гадоў”. Ён адчувае цяжар свайго служэння: “Кожны, хто знаходзіцца на кіроўных пасадах, мяне зразумее”. Папа Францішак апісвае свой стан як “сіндром канца навучальнага года”: інтэнсіўны графік, стомленасць як “пры падрыхтоўцы да іспытаў у выпускным класе”.



### Папа пра Радзіму

Святы Айцец называе Аргенціну “краінай перспектыў і страчаных магчымасцяў”, цытуючы свайго папярэдніка, арцыбіскупа Буэнас-Айрэса Антоніа Квуараччына. Папа таксама кажа, што перастаў прымаць аргенцінскіх чыноўнікаў, “бо яны пачалі выкарыстоўваюць візіты ў Ватыкан і фота з Папам у палітычных мэтах”.

### Папа ўбогіх, або Убогі Папа?

На пытанне, ці падабаецца яму, калі яго называюць “Папам убогіх”, Святы Айцец адказаў: “Езус прыйшоў абвяшчаць Добрую Навіну ўбогім. Галечу нельга аддзяліць ад евангельскага вучэння. Гэта сэрца Евангелля. Пантыфік таксама ўбогі чалавек!”

Папа Францішак лічыць найвялікшым злом сёння “беднасць, карупцыю і гандаль людзьмі”. “Пераадолець агульную беднасць немагчыма. Гэта высокі ідэал, утопія. Аднак, я перакананы, менавіта ідэалы дазваляюць нам рухацца наперад. Вельмі сумна, калі маладыя людзі не з’яўляюцца ідэалістамі, – кажа ён. – Мы павінны памятаць пра тры рэчы, калі імкнёмся нешта змяніць. Па-першае, мы павінны памятаць пра нашае мінулае. Па-другое, рэальна ацэньваць актуальнае становішча рэчаў, і мець ідэалістычнае бачанне будучыні. Забыць уласную гісторыю – азначае аддзяліцца ад каранёў, тады з намі адбудзецца тое, што і з любой раслінай, – мы загінем”. Папа паважае старых як “памяць грамадства”, таму падкрэслівае важнасць клопату пра іх. “Калі я не гляджу ў будучыню, паводжу сябе як дрэнны менеджар, які не можа пабудаваць добрых планаў”.

У канцы размовы Папа Францішак папрасіў пра малітву ў яго інтэнцыі: “Гэта тое, у чым я на самай справе маю патрэбу!”

*Паводле матэрыялаў CREDO*

# Кандыдат-каталік будзе балатавацца ў Прэзідэнты ЗША



**Былы сябра Сенату ЗША Рык Санторум, які вылучаецца падкрэслена каталіцкімі пазіцыямі ў пытаннях сям'і і абортаў, заявіў пра намер балатавацца на пост Прэзідэнта ЗША ў 2016 годзе, паведамілі амерыканскія СМІ.**

“Як прэзідэнт я буду абараняць прынцып, згодна з якім жыццё любога чалавека мае значэнне – беднага, хворага і ненароджанага”, – сказаў ён падчас кароткай прамовы ў небагатым гарадку Кэбот у штаце Пенсільванія.

У 2012 годзе Санторум заняў другое месца падчас праймэрыз Рэспубліканскай партыі пасля Міта Ромні, які ў выніку прайграў выбары дзейнаму прэзідэнту-дэмакрату Бараку Абаме. Санторум не меў значнай фінансавай падтрымкі, вёў кампанію, у асноўным карыстаючыся падтрымкай сярод небагатых амерыканцаў, якія выступаюць за хрысціянскую сям'ю і забарону абортаў.

“Амерыканскім сем'ям не патрэбны яшчэ адзін прэзідэнт, звязаны з дзяржаўнай бюракратыяй і вялікім бізнесам”, – заявіў Санторум, які сам мае сямёра дзяцей і, верагодна, найбольш актыўна будзе звяртацца да людзей, у якіх ёсць малы і сярэдні бізнес, да тых, хто працуе толькі за заробак.

Рык Санторум таксама паабяцаў разбіць “Ісламскую дзяржаву”, якая пераследуе хрысціян і нязгодных мусульман на Блізкім Усходзе.

*Паводле catholic.by*

# Украінскі біскуп: лепш страціць тэрыторыю, чым людзей

**Сітуацыю на ўсходзе Украіны пракаментаваў каталіцкі біскуп Харкаўска-Запарожскі Станіслаў Шыракарадзюк.**



***“Што лепш: прыходзіць у чорных хустках на набажэнствы або дамаўляцца?”***

“Генералы катэгарычныя: ім каскі ціснуць, яны хочуць ісці ў атаку. Але што лепш: неяк перачакаць і абараняцца, каб менш было гэтых ахвяр, бо гінуць людзі? Ці ісці ў атаку і страціць тысячы і тысячы, ці сотні тысяч чалавек? Я не ведаю. Я лічу, што гэта найлепшы варыянт з найгоршага сцэнару, які ёсць. Сцэнар вельмі дрэнны, але ён з горшых – найлепшы. Мы молімся на кожнай Імшы аб усіх загінулых. Я бачу людзей, якія прыходзяць маліцца за тых, хто загінуў. Вось і спытаем у тых людзей, што для іх лепш: і надалей прыходзіць у чорных хустках на такія набажэнствы, калі дзеці гінуць, або дамаўляцца? Можа, нехта скажа, што гэта будзе непапулярным. Лепш страціць тую тэрыторыю, чым сотні тысяч людзей. Тая тэрыторыя яшчэ вернецца. Насыціцца яны яшчэ тым “рускім светам”, яшчэ і назад прасіцца будуць. Але нам ва Украіне трэба парадак навесці. З карупцыяй нашай, у праблемах, рэформах, ... а то ўсё спісваюць на вайну”, – сказаў біскуп Станіслаў Шыракарадзюк.

*Паводле gaudete.ru*

# "Lectio Divina",




**Існуе ўніверсальны для ўсіх хрысціянаў спосаб малітвы. У аснове яго ляжыць малітоўнае чытанне Святога Пісання. У каталіцкай духоўнай традыцыі гэты спосаб малітвы называецца "Lectio Divina"», што ў перакладзе з латыні азначае "Боскае Чытанне". Першапачаткова такое чытанне было распрацавана ў якасці аднаго з элементаў манаскага правіла (дысцыпліны) у часы св. Бэнэдыкта Нурсійскага (480 – 547 гг.), які лічыцца заснавальнікам заходняга манаства.**

## Чытай – адгукайся – маліся – сузірай

Як было зазначана вышэй, "Lectio Divina" па сваёй сутнасці ёсць не што іншае, як малітоўнае чытанне Святога Пісання. У гэтым сэнсе нічога не змянілася з часоў айцоў Пустыні. Аднак само чытанне Слова Божага набыло крыху іншую характарыстыку. Фармальна ў "Lectio Divina" пачалі вылучаць чатыры этапы: *Чытай (Lectio), Адгукайся (Meditatio), Маліся (Oratio), Сузірай (Contemplatio)*.

Дазвольце мне сказаць некалькі слоў пра кожны з гэтых этапаў "Боскага Чытання". Першы этап – **"Чытай"** – як быццам зразумелы: мы проста чытаем. На жаль, у нашы часы "проста" ўжо ніхто чытаць не ўмее. Мы валодаем хуткаснымі тэхнікамі чытання; чытаем, як гэта робяць журналісты, пераглядаючы першы і апошні абзац артыкула; як студэнты філолагі, праглынаючы тоўстыя фаліянты за дзве гадзіны; і больш за тое – мы ганарымся гэтым... Але тут трэба проста чытаць.

У апісаных выпадках не ідзе гаворка пра "інтэлектуальнае засваенне матэрыялу", бо, чытаючы таксама і мастацкую літаратуру, мы не канцэнтруемся выключна толькі на інтэлектуальным разуменні сюжэту... Тут гаворка ідзе пра тое, каб слухаць і чуць! Так-так, слухаць і чуць. "Бог кажа ў цішыні" – такі надпіс можна і цяпер сустрэць на сценах некаторых манастыроў.

Другі этап – **"Адгукайся"**. Калі я згадаў, што пры чытанні Бібліі трэба слухаць і чуць, то не меў на ўвазе, што трэба з'ехаць з глузду і чуць галасы. Мы, хрысціяне, верым, што Слова Божае Духам Святым дзейнічае ў нашых сэрцах і знаходзіць водгук. Мы "чуем" тады, калі наша сэрца не застаецца абыякавым. Мы "адказваем" тады, калі ідзём за ўзрушэннем нашага сэрца, прытрымліваемся таго, што наказвае нам Святое Пісанне. Уласна, тут пачынаецца этап "Адгукайся" – этап рэфлексіі. Гэта ступень, на якой мы задаём сабе пытанне: "Як я магу змяніць сваё жыццё ў адпаведнасці са Словам Божым, каторае толькі што пачуў?"

Трэці этап – **"Маліся"**. Хтосьці скажа: ну вось, дабраліся, нарэшце, і да малітвы! Вядома ж, не трэба думаць, што малітва пачынаецца толькі тут. Спяшаюся запэўніць, што мы молімся на ўсіх этапах "Lectio Divina", бо малітва – гэта ўсё тое, што мы аддаём Богу. На гэтым жа, трэцім, этапе мы непасрэдна звяртаемся да нашага Бога, нашага Збаўцы Езуса Хрыста. А тэмай нашага малітоўнага звароту з'яўляецца ўсё тое, на што адгукнулася наша сэрца пры чытанні Святога Пісання.

Чацвёрты этап – **"Сузірай"**. Найбольш складана растлумачыць, што такое "сузірай", што такое "сузіранне"... Напэўна, кожнаму з нас даводзілася мець такое пачуццё: вы ў лесе прыселі на пянёк, і прырода як быццам "прыняла" вас у свае абдымкі. Вы атрымліваеце асалоду ад навакольнага лесу і нават не заўважаеце, колькі часу вы ўжо там знаходзіцеся. Калі б у вас спыталі, пра што вы думалі ў гэты момант, то, мяркую, вам цяжка было б на гэта адказаць. Падобнае бывае і ў малітве. Толькі вы не ў лесе, а ў Слове Божым. Зрэшты, гэта толькі адзін аспект сузірання. Ці дойдзем да іншых? Калі Госпад дасць...

## Lectio divina: практыка ў малой групе

Усё вышэйнапісанае датычыць асабістай малітвы, індывідуальнай практыкі "Боскага чытання". Далей я хачу расказаць пра тое, як можна практыкаваць Lectio Divina ў малой групе. Малая група – гэта 3-10 чалавек, аднак аптымальным лічыцца калектыў, які складаецца з 5-6 удзельнікаў. Група стварае кола (пажадана вакол круглага стала), у цэнтры ставіцца свечка. Кожны ўдзельнік павінен мець пры сабе асобнік Святога Пісання і (пажадана) індывідуальны сшытак для запісаў.

У групе заўсёды павінен знаходзіцца вядоўца. Гэта той чалавек, каторы ведае, як праводзіць Lectio divina, хрысціянін-практык, што валодае лідарскімі навыкамі. У парафіі звычайна ролю такога вядоўцы выконвае святар або той, каму ксёндз даручыць гэтае заданне.

У абавязкі вядоўцы ўваходзіць перш за ўсё **выбар біблейскіх тэкстаў** для чытання і **падрыхтоўка каментару**. Звычайна варта абіраць тры фрагменты: 1) з Апостальскіх пасланняў або кнігі Дзеянняў апосталаў (ці Старога Запавету); 2) адзін псальм з Псалтыра; 3) фрагмент Евангелля. Вельмі зручна для гэтага браць чарговыя чытанні, прызначаныя на нядзельную св. Імшу (Боскую Літургію).

## Падрыхтоўка каментару

Вядоўцу неабходна напісаць каментар да абраных фрагментаў Бібліі. Заўважце, гэта павінен быць каментар, а не "мае думкі на тэму". Патлумачу, у чым заключаецца розніца. У "маіх думках на тэму" мы выкладаем наша разуменне фрагмента Святога Пісання, а ў каментары мы рупліва выпісваем "сухую" інфармацыю з біблейскіх даведнікаў і энцыклапедый і спецыяльных біблейскіх каментароў, з каментароў святых Айцоў Царквы.

Хачу таксама дадаць, што сам каментар не павінен быць занадта доўгім. Хай ён займае каля пяці хвілін часу. Варта дзейнічаць па сітуацыі: напрыклад, вядоўца можа палічыць мэтазгодным падрыхтаваць толькі адзін, больш шырокі каментар да аднаго фрагмента Пісання. Такое таксама магчыма. Дазвольце ніжэй падаць як прыклад адзін з каментароў, што я падрыхтаваў некалі для парафіяльнай групы Lectio divina:

***Каментар да Лк. 7, 2-10:***

***1. Сотнік** – рымскі афіцэр, цэнтурыён, кіраўнік 100-асабовага аддзела пяхоты. (У рымскім войску было 60 сотнікаў у легіёне, які налічваў 6000 жаўнераў. У часы Езуса на тэрыторыі Галілеі знаходзіліся 2 легіёны.*

# Польскі прэзідэнт выратаваў гостыю. Інцыдэнт падчас Імшы



**У святкаванні Дня Падзякі ў варшаўскім Віланове прыняў удзел новаабраны прэзідэнт Анджэй Дуда. Падчас Эўхарыстыі здарыўся інцыдэнт: вецер здзьмуў гостыю, паведамляе tvnwarszawa. Дуда зрэагаваў імгненна: схапіў яе і панёс арцыбіскупу Казіміру Нычу.**

У нядзелю, 7 чэрвеня, адзначаўся VIII Дзень Падзякі, які ў гэтым годзе мае дэвіз "Каралева сем'яў – дзякуем і дручаем".

Пазней новаабраны прэзідэнт заспяваў з гуртом "Arka Noego" хіт дзяцей са знакамітым рэфрэнам "Так вялікі, як маленькі, можа быць святым".

Варта нагадаць, што некалькімі днямі раней, падчас прэзідэнцкіх выбараў, Анджэй Дуда маліўся ў Марыйным санктуарыі на Яснай Гары, дзе яму і прыйшла вестка: паводле папярэдніх вынікаў, ён стаў прэзідэнтам Польшчы.






# У Аб'яднаных Арабскіх Эміратах пачала дзейнічаць другая каталіцкая святыня

Праз пяцьдзесят гадоў пасля адкрыцця касцёла св. Юзафа ў Абу-Дабі ў Аб'яднаных Арабскіх Эміратах пачала дзейнічаць другая каталіцкая святыня.

12 чэрвеня адбылося адкрыццё касцёла св. Паўла ў Мусафах, прыгарадзе Абу-Дабі. З нагоды яго адкрыцця ў арабскую краіну прыбыў бліжэйшы супрацоўнік Папы Францішка кардынал Дзяржсакратар Пьетра Паралін. Каталіцкая супольнасць складаецца тут у асноўным з эмігрантаў розных нацыянальнасцяў. Першы, і да гэтага часу адзіны, каталіцкі касцёл у Аб'яднаных Арабскіх Эміратах стаў дзейнічаць у 1965 г.

*Ватыканскае радыё*

# або Як чытаць Святое Пісанне?

*Іх штаб-кватэра месцілася ў Дамаску на поўначы).*

*Сіла і маральнасць жаўнераў легіёна залежала ад цэнтурыёна. Цэнтурыёнаў маглі часта змяняць, пераносіць на іншае месца, павышаць. Частыя перамены патрэбны былі дзеля таго, каб цэнтурыён не прывязаўся да пэўнай групы людзей, што выключала таксама карупцыю.*

*Тое, што сотнік пабудаваў сінагогу (7,5) сведчыць:*

*– што сотнік, верагодна, быў празелітам або сімпатызаваў юдаізму падобна да Карнэлія (пар. Дзеі 10, 1-2);*

*– пра яго заможнасць (меў багацце);*

*– пра яго грамадскія сувязі;*

*Евангеліст Лука, які ёсць аўтарам Дзеяў, суадносіць гэты эпізод з эпізодам з Дзеяў пра сотніка Карнэлія (Дз 10).*

***2. Аздараўленне слугі.*** *Сотнік падыходзіць да просьбы мудра. Ён усведамляе, што з'яўляецца чужаземцам, афіцэрам войска акупантаў, не з'яўляецца юдэем. Вось чаму сотнік напачатку звяртаецца да старэйшын, каб тыя за яго ад яго імя прасілі Езуса. Калі Езус згадзіўся, то сотнік высылае сяброў сказаць Яму, што «ён не варты» (7, 6б).*

*Гэтым сотнік праяўляе клопат у дачыненні да рэлігійных пачуццяў Езуса-юдэя. Бо ў сотніка ў доме, папершае, напэўна, было шмат выяваў, якія прадстаўлялі мілітарную перавагу Рымскай Імперыі. Па-другое, Езус выпадкова мог бы дакрануцца да чагосьці, што б Яго, паводле габрэйскага закону, зрабіла нячыстым.*

### Паслядоўнасць "Боскага чытання"

Пасля таго, як удзельнікі збіраюцца разам і рассаджваюцца вакол стала, вядоўца запальвае свечку. Пры гэтым ён можа вымавіць словы нейкай адпаведнай малітвы, напрыклад, "Святло Хрыстова асвятляе ўсіх". Далей прамаўляе ўступную малітву. Гэтай малітвай можа быць "Ойча наш" або кароткая малітва сваімі словамі. Потым вядоўца аб'яўляе чытанне каментароў да прадугледжаных урыўкаў са Святога Пісання (калі каментары адсутнічаюць, то святар можа зрабіць свой уласны ўступ, аднак пазбягаючы формы казання). Пасля гэтага адбываецца чытанне ўрыўкаў са Святога Пісання. Удзельнікі па чарзе чытаюць фрагменты, а на чытанне Евангелля ўсе ўстаюць (калі ёсць святар ці дыякан, то тады ён абавязкова чытае Евангелле). Далей усё ізноў сядаюць і распачынаюць індывідуальнае чытанне і разважанне над Божым Словам, па меры магчымасці карыстаючыся прынцыпамі індывідуальнай практыкі *Lectio Divina*. Наступны пункт – гэта малітоўнае чытанне ўголас тых вершаў, якія кранулі наша сэрца. Першым пачынае чытаць вядоўца, і гэта знак для іншых удзельнікаў, што скончылася індывідуальнае разважанне і пачаўся наступны этап. Апошнім пунктам *Lectio divina* з'яўляецца абмен думкамі паміж удзельнікамі, што Госпад наш Езус Хрыстус адкрыў нам **пра нас** падчас разважання над Божым Словам. Вядоўца сочыць за тым, каб не парушаліся правілы абмеркавання, і пасля таго, калі ўсе ахвотныя выкажуцца, прамаўляе словы заключнай малітвы. Гэта можа быць кароткая малітва сваімі словамі.



### Чатыры галоўныя прынцыпы абмену думкамі наконт Божага Слова ў малой групе

Хачу звярнуць вашу ўвагу на асаблівы этап у супольным "Боскім Чытанні" – гэта момант абмену думкамі. Магчыма, нехта пабачыў тут прыём, якім карыстаецца псіхолагі. Увогуле, так яно і ёсць. Мы гэтым прыёмам карыстаемся для добрых мэтаў – дзелімся тым, як адгукнулася Слова Божае ў нашых сэрцах. Аднак каб удзел у абмеркаванні не нашкодзіў самім удзельнікам, вядоўца павінен памятаць і часта нагадваць іншым асноўныя прынцыпы абмену думкамі ў малой групе. Вось яны:

**1. Кожны мае права не дзяліцца.** Гэта просты і зразумелы прынцып: нельга прымусіць чалавека падзяліцца. Падзяліцца з іншымі – гэта дар, які нам дораць нашы браты і сёстры. Мы можам і самі рабіць такі падарунак іншым, але толькі тады, калі ў нас ёсць што дарыць і ёсць жаданне гэта рабіць.

**2. Дзяліцца можна толькі тым, што Госпад наш Езус Хрыстус адкрыў нашаму сэрцу пра нас.** Аповед можна пачынаць так: "я дзякую Госпаду сёння за наступныя словы...". Скончыць варта лепш за ўсё словамі "дзякуй Табе, Божа" або "Амэн", тады ўсе прысутныя будуць ведаць, што выказванне меркаванняў дадзеным удзельнікам скончана.

**3. Нельга вучыць або распавядаць "Божую волю" для іншых, "чытаць мараль".** Калі ўзнікаюць пытанні адносна разумення каментару або непасрэдна актуальных фрагментаў Святога Пісання, то варта іх задаць пасля заключнай малітвы святару ці вядоўцу.

**4. Нельга перабіваць асобу, якая дзеліцца, або каментаваць яе словы** (напрыклад, так: "а ў мяне ўсё было дакладна гэтак жа, толькі яшчэ горш").

**5. Усё, што было пачута, не выносіцца** па-за групу, якая ўдзельнічала ў абмеркаванні. Гэтым правілам мы шануем пачуцці тых людзей, якія падзяліліся з намі сваім унутраным светам, сваімі асабістымі адносінамі з Богам, ды акрамя гэтага, магчыма, таксама сваімі праблемамі, а нават грахамі.

*З пажаданнямі добрай малітвы,*
***а. Андрэй Буйніч***

Вашы водгукі можна дасылаць на мэйл: a.buinich@gmail.com

# Няма большага шчасця, чым жыццё з Божым блаславеннем!

## *Ліст з Новалукомля*

**Хвала Хрысту! Добры дзень, паважаная рэдакцыя! Вітаюць вас вернікі парафіі св. Марыі Магдалены з Новалукомля. Хочам падзяліцца навінамі і дасягненнямі, што маем за апошні час.**

Хутка ўжо будзе чатыры гады, як узначаліў нашу парафію ксёндз Аляксандр Баран. Ён адразу праявіў сябе надзвычай добрым і энергічным працаўніком. Рэгулярна, кожную нядзелю, пачалі праводзіцца дзве Імшы: на польскай і беларускай мовах. Адметна, што суправаджаюць "польскую" Імшу і спевы на гэтай мове.

Ксёндз Аляксандр пазнаёміў нас і з шэрагам новых малітваў і чытанняў падчас польскамоўных Імшаў. Усе літаніі, што адмаўляюцца на працягу месяца, не проста чытаюцца, але спяваюцца. І гэта, несумненна, надае яшчэ большую прыгажосць, узнёсласць і ўрачыстасць.

Асаблівую ўвагу надае кс. Аляксандр выхаванню дзяцей і моладзі: штогод праводзяцца пілігрымкі па святых месцах. Да святаў і ўрачыстасцяў вывешваюцца плакаты з малітвамі і выказваннямі дзеячаў касцёла, самы актыўны ўдзел прымаюць дзеці і моладзь ва ўрачыстых працэсіях. Усе дзеці па чарзе чытаюць малітву вернікаў і адмаўляюць ружанец. Нездарма ж парафія павялічваецца: прыходзяць маладыя пары, нараджаюцца дзеці. Але адметна тое, што нашы маладыя маці прыносяць на святую Імшу сваіх малых ледзь не ад першых дзён іх жыцця. І ў гэтым таксама заслуга нашага святара. Уяўляеце, як часам "спявае" аднaчасова чацвёра немаўлят! А ксёндз Аляксандр кажа: "Парадуйцеся! Бо гэта дзеткі такім чынам моляцца да Пана Бога". І ўсе прысутныя пачынаюць усміхацца, на сэрцах робіцца цёпла-цёпла, нібы анёл праляцеў... Своечасова прамоўленае добрае слова – таксама казанне.

Вялікую работу праводзіць наш паважаны святар па будаўніцтве касцёла. Пры галоўным уваходзе ёсць каплічка Маці Божай Нястомнай Дапамогі, дзе кожны ў цішыні можа памаліцца пра самае важнае і надзённае. Маем цяпер і скульптурную выяву Маці Божай. У хуткім часе яна будзе ўстаноўлена на каменнай горцы ля штучнага вадаёма на ўсходнім баку касцельнай тэрыторыі.

Ксёндз Аляксандр адразу пакарыў нас сваім незвычайным адчуваннем прыгожага і адметным мастацкім густам. Такіх шыкоўных святочных дэкарацый, такіх незвычайных аздабленняў з кветак дагэтуль мы не бачылі. Кожную Імшу алтар нібы сам квітнее – такія фларыстычныя спалучэнні знаходзіць наш святар! Усе прыезджыя адзначаюць гэта і здзіўляюцца. А мы... А мы любуемся і радуемся, таму што чалавек, здольны так тонка адчуваць прыгажосць, мае такую ж прыгожую і шчодрую душу.

Сапраўды каласальнай справай было падвядзенне газавага ацяплення ў будынак касцёла. Тры гады ксёндз Аляксандр дабіваўся станоўчай пастановы ў бясконцых інстанцыях, некалькі разоў перарабляліся патрэбныя паперы, шмат было ўкладзена ўласных сродкаў і сіл. І вось, нарэшце, жаданы вынік. Цікава, што падзея гэта адбылася 30 снежня, якраз напярэдадні Новага года. Але праект няскончаны: у планах – далейшая праца.

31 мая ў нашага паважанага пробашча быў Дзень нараджэння. Шчыра віншавалі яго людзі і дзякавалі за нястомную працу, за адкрытае сэрца і проста за тое, што ён ёсць у нашых жыцці. Гучаў велічальны гімн "Sto lat", дарыліся кветкі, а адна са старэйшых парафіянак нават прачытала верш, напісаны па-польску адмыслова з такой нагоды.

7 чэрвеня ў нас адбылася ўрачыстая працэсія Божага Цела. На тэрыторыі былі ўстаноўленыя чатыры алтары, упрыгожаныя сцягамі і кветкамі, ля якіх вернікі шчыра маліліся ў адпаведнай інтэнцыі. І так ярка свяціла сонца, так узнёсла гучалі спевы, такія светлыя ўсмешкі былі на тварах людзей, што думалася толькі адно: няма большага шчасця, чым жыццё з Божым блаславеннем!

***Зося Мацкевіч***

# Сустрэча з мінулым

**Трынаццатага чэрвеня, субота. Наша парафія імя Найсвяцейшай Панны Марыі ў Параф'янаве ўшаноўвае святога Антонія з Падуі. Вялікая ўрачыстасць. Пробашч Раман аб'яўляе, што святую Імшу будзе адпраўляць ксёндз-пралат Мечыслаў Янчышын. Гэта стала вельмі прыемнай неспадзяванкай для нас, вернікаў старэйшага пакалення.**

Любы ў Хрысце Пану, шаноўны ксёндз Мечыслаў! Звяртаюся да Вас са шчырымі словамі. Сапраўды, 25 гадоў праляцела з таго часу, як наша парафія мела вялікую радасць маліцца разам з Вамі, хоць і не кожную нядзелю, але ж часта. Кожны раз наш пробашч Тадэвуш уступаў Вам сваё месца каля алтара, а мы радаваліся кожнаму Вашаму прыезду. Гэта быў вельмі прыгожы час. Пасля доўгага камуністычнага ўціску ксяндзы-капуцыны расчынілі дзверы нашай святыні. З першых спатканняў мы ўбачылі ў Вас сапраўдную пакору, святасць, чыстасць, мудрасць, культуру ў размове, павагу да нас, бязмежную адданасць справе Божай. Даведаўшыся, што Вы будуеце касцёл у Лепелі, мы з вялікім задавальненнем дапамагалі, чым маглі, хоць і наша святыня была не ў лепшым стане. А якімі прыгожымі словамі Вы надзялялі нас супакоем Божым, дапамагаючы знаходзіць блізкасць Міласэрнага Айца!

Каля канфесіянала заўсёды выстройвалася чарга. Тактоўна, спакойна, упэўнена Вы даносілі да нас, што мы – дзеці Божыя. Мы паважалі і любілі Вас так, як і свайго пробашча. Вы абодва былі для нас адно цэлае, і мы называлі Вас прыгожым словам "ойчанька". Мы вачыма вышуквалі Вас у Будславе. Да гэтага часу памятаем Вашы словы, якія чулі ў часе рэкалекцый: "Вы вельмі добрыя парафіяне". Мы з усёй сілы стараліся быць такімі, жыць паводле запаведзяў Божых.

Не хачу пакрыўдзіць тых святароў, якія працавалі ў нас і працуюць зараз, але пры размовах да гэтага часу мы марылі, што некалі хоць нейкі кароценькі тэрмін у нас папрацуе ксёндз Мечыслаў. Цяпер даведаліся, што мары не суджана збыцца. Але ж Вы назаўсёды застаняцеся ў нашых сэрцах, у добрых успамінах.

Дзякуй Богу Міласэрнаму і ўсім святым у небе, асаблівым чынам – святому Антонію, што падаравалі нам такую прыгожую ўрачыстасць і сустрэчу з прыгожым мінулым.

Вялікая ўдзячнасць нашаму ксяндзу Раману за тое, што запрасіў, а ксяндзу Мечыславу хвала і пашана за тое, што не адмовіў, падарыў нам, як сонечны праменьчык, крупельку свайго цяпла і святла.

Няхай Божая ласка спадарожнічае Вам праз усё далейшае жыццё! Хоць зрэдку ўспамінайце, калі ласка, нашу парафію ў сваёй малітве на сваёй Радзіме. Мы ж, у сваю чаргу, выказваем у малітве сваю бязмежную павагу і любоў да Вас. Многія з нашых парафіян ужо адышлі ў вечнасць, але тыя, хто застаўся, назаўсёды з Вамі!

*Леакадзія Малей,*
*вёска Сітцы*



*Лынтупы*

# Свята Першай камуніі

**7 чэрвеня ў Лынтупскай парафіі святога Апостала Андрэя прыступілі да Першай Камуніі 13 хлопчыкаў і дзяўчынак. Гэта было так прыгожа і кранальна, быццам чародка анёлаў зляцела з неба!**

Апранутыя ў белыя сукенкі дзяўчынкі з вяночкамі на галоўках і па-мужчынску сур'ёзныя хлапчукі ў белых альбах у суправаджэнні сясцёр-законніц Люцыны і Антоніі з радасна ўсхваляванымі хроснымі бацькамі, мамамі і татамі ішлі за працэсіяй.

Убраныя жывымі кветкамі алтары, упрыгожаныя белымі бантамі і накідкамі крэслы для дзяцей, узнёслыя спевы, поўны касцёл людзей стварылі непаўторную атмасферу свята.

Ксёндз-пробашч Павел павіншаваў дзяцей і бацькоў з важным крокам у іх духоўным жыцці, пажадаў усім прысутным, каб Божая справа і Божае Валадарства развіваліся ў сэрцах праз моц Духа Святога і міласэрнасць Пана Езуса.

Парафіяне дружна аднавілі клятву веры, адракаючыся ад нячыстага і ўсіх спраў яго. На сэрцы было светла і радасна ад цудоўнага відовішча, ад урачыста ўсхваляваных дзетак, якія прымалі першую ў сваім жыцці Святую Камунію.

Цешыла думка, што жыве касцёл і каталіцкая вера на Лынтупшчыне, нераадолеўшы мноства перашкод, эканамічныя і сацыяльныя праблемы, варожасць і абыякавасць.

Былі часы, калі, адстойваючы права на існаванне касцёла, самыя смелыя і адданыя вернікі рызыкавалі сваёй свабодай і нават жыццём. Але казалі ўслых пра неабходнасць прысутнасці святара ў касцёле, пра прыклад жывой веры.

Так радасна нам, старэйшаму пакаленню, глядзець на сваіх нашчадкаў, калі шчаслівыя маладыя бацькі ўрачыста вядуць дзяцей у святыню! А ксёндз Павел, выконваючы пакліканне Божае, падымае іх па прыступках веры, пачынаючы ад святога хросту. Прывітая з дзяцінства любоў да Бога дасць добры плён, каб і ў дарослым жыцці кіраваліся Божымі запаведзямі. З моцнай верай будзе моцнай сям'я, а значыць – і грамадства. Чалавечае сэрца – пустыня без Божага слова, якое шчыра, мудра і зразумела тлумачыць нам наш паважаны, крыху іранічны святар.

Гэты месяц–чэрвень–прысвечаны ўшанаванню Найсвяцейшага Сэрца Езуса Хрыста. Кожную нядзелю, а таксама і вечаровымі набажэнствамі ў іншыя дні гучаць у касцёле прыгожыя галасы нашай арганісткі Наталлі Тамашэвіч і арганізаванага ёй жаночага хору. Яны спяваюць літанію да Найсвяцейшага Сэрца Езуса, а вернікі падхопліваюць рэфрэн, і ўзнімаецца спеў да высокіх скляпенняў касцёла, ляціць над мястэчкам да самага неба. Шчырымі малітвамі і пабожнымі спевамі ахвяруе парафія свае сем'і, сваю працу і свае памкненні, свой родны край міласэрнаму і поўнаму любові Сэрцу Езуса. Побач з бацькамі, бабулямі і дзядулямі моляцца дзеці, якія ў прыгожы чэрвеньскі дзень, калі зямля кветкамі і пахучымі травамі вітае Бога, прыступілі да Першай Камуніі.

*Нэля Лось, г.п. Лынтупы*



# Ліст з Дрысвятаў

**З вялікім нецярпеннем чакалі мы таго дня, калі з радасцю і надзеяй скажам адно аднаму: "Хрыстос уваскрос! Сапраўды ўваскрос!" Гэтая незвычайная, цудоўная падзея, калі чалавек пачынае задумвацца над сабой, над сваім жыццём. Калі сам Бог дае магчымасць распачаць "новае жыццё", атрымаць поўнае адпушчэнне грахоў праз сакрамант споведзі.**

Да Велікодных святаў мы рыхтаваліся з нашым святаром Генадзем Ляўковым. Гэта быў першы яго Вялікдзень у нашай парафіі. Дзякуючы таленту кс. Генадзя і яго самаадданай працы ў нашым касцёле атрымалася такая цудоўная дэкарацыя, якая падрадавала сэрцы і душы. Святая Імша падкрэслівала важнасць гэтага Светлага Дня.

Ксёндз Генадзь звярнуўся да прысутных словамі: "Бог вас вельмі любіць, хоча, каб кожны чалавек жыў вечна, бо за нас Езус аддаў сваё жыццё. Не забывайце, што Езус уваскрос і жыве, Уваскрослы Хрыстос прыходзіць да нас, каб дапамагчы стаць падобнымі да Яго".

Святар радуецца, што ў касцёл прыходзіць усё больш і больш моладзі і дзетак з бацькамі, а гэта будучыня касцёла.

Мы, парафіяне, удзячныя Пану Богу за тое, што ў нашай парафіі такі мудры святар. Кожны раз на святой Імшы бываем ураджаныя яго глыбокай верай, адданасцю Пану Богу, жаданнем дапамагчы нам стаць лепшымі, сапраўднымі хрысціянамі. Ксёндз Генадзь умее знайсці сцяжынку да кожнага з нас, знайсці патрэбныя словы.

Асаблівая падзяка нашаму святару за Велікоднае свята, якое ён нам падарыў. Мы былі ўзрадаваныя і ўзрушаныя натхнёнасцю і пранікнёнасцю Божага слова, з якім ксёндз звяртаўся да прысутных. Нават слёзы можна было ўбачыць на вачах людзей... Кожны пасля святой Імшы нёс у сваім сэрцы Уваскрослага Езуса і ўдзячнасць нашаму святару.

Нізкі паклон Вам, наш ойча, за цудоўныя словы навукі, за клопат пра жывых і памерлых, за творчую і плённую працу на карысць Касцёла і парафіі.

Жадаем Вам, ксёндз Генадзь, каб заўсёды з Вамі былі паплечнікі з гарачымі сэрцамі, якія дапамогуць прывесці бліжняга да Хрыста. Няхай добры Бог адорвае Вас сваімі ласкамі і супакоем, а Маці Божая апякуецца ў кожнае імгненне жыцця!

*З павагай,*
*парафіяне касцёла*
*св. Пятра і Паўла*
*ў Дрысвятах*
*(Браслаўскі раён)*



# Святар Уладзімір Шымковіч:
# “Дзякую Пану Богу за дар паклікання!”

**10 гадоў назад, 14 мая 2005 года, у касцёле Божага Провіду і Найсвяцейшага Сэрца Езуса ў в. Слабодка Браслаўскага раёна адбыўся абрад пасвячэння ў святары лынтупчаніна, выпускніка Гродзенскай Вышэйшай Духоўнай Семінарыі Уладзіміра Шымковіча. Пасля службы на Пастаўшчыне, Мёршчыне, Глыбоччыне сёння ён шчыруе ў парафіі ў Дуброўне, якая налічвае ўсяго некалькі дзясяткаў чалавек. Тым не менш малады святар ініцыяваў будаўніцтва касцёла, увасабляе ў жыццё і іншыя свае задумы. Але ў сваіх шматлікіх справах ён ніколі не забывае малую радзіму і дарагіх сэрцу землякоў...**

**– Ксёндз Уладзімір, успомніце свой абрад пасвячэння ў святары...**

– Думаю, што гэтая падзея была радаснай і чаканай для ўсіх, хто прымаў у ёй удзел. 14 мая яна адбылася ў в. Слабодка, а 15 мая - у родным касцёле св. Андрэя Апостала ў Лынтупах. Там у дзяцінстве я быў ахрышчаны, там першы раз прыступіў да святой споведзі і прыняў Першую Святую Камунію, а 15 мая 2005 года правёў Першую святую Імшу. На вялікі жаль, мой тата не дажыў да гэтага дня, але са мной былі мая мама, родныя і блізкія, вернікі Лынтупскай парафіі, госці. Я часта вяртаюся ў думках да гэтых падзей, нанова іх перажываю. І не перастаю дзякаваць Пану Богу за дар паклікання да святарства, за гады святарскага служэння.

**– Калі і чаму Вы вырашылі пайсці за голасам паклікання да святарства і ўзысці на такую пачэсную, але нялёгкую дарогу святарскага служэння? Хто Вам у гэтым дапамог?**

– У школьныя гады я меў магчымасць наведваць касцёл у Лынтупах, маліцца ў касцёле і дома, прымаць удзел у занятках па вывучэнні катэхізіса. І я паступова пачаў адчуваць жаданне паступіць у Духоўную Семінарыю, навучэнцам якой на той час ужо быў мой зямляк Ян Пугачоў – цяперашні пробашч парафіі ў в. Германавічы Шаркаўшчынскага раёна. Ад яго я даведаўся, якія дакументы неабходна сабраць для паступлення ў семінарыю, якія здаць экзамены. Свае жаданні і мары я доўгі час насіў у сабе, ніхто пра іх не ведаў, нават бацькі. Але прыйшоў час, калі трэба было сказаць праўду, якой і сам баяўся. Зрабіць гэта аказалася вельмі няпроста. Сёння я дзякую маім бацькам і настаўнікам Лынтупскай школы, на лёс якіх выпала нялёгкае выпрабаванне – прыняць маё рашэнне пайсці за голасам паклікання да святарства, праявіць разуменне і падтрымку. Дзякую ксяндзу Чэславу Куцмежу, які дапамог мне распазнаць голас паклікання і напісаў характарыстыку для паступлення ў семінарыю. Шмат добрых слоў хочацца сказаць і вернікам Лынтупскай парафіі за духоўную і матэрыяльную дапамогу ў час вучобы ў семінарыі і пасля яе.

**– Якім быў для Вас час вучобы ў Духоўнай Семінарыі?**

– Вельмі цікавым і карысным, хаця і нялёгкім, таму што на працягу ўсёй вучобы ў семінарыі цяжка хварэла мая мама, хварэў таксама і мой тата, і гэта акалічнасцьададала мне шмат перажыванняў і клопатаў. Нават давялося на два гады ўзяць акадэмічны адпачынак, каб даглядаць іх. Мае бацькі былі для мяне прыкладам веры ў Бога, малітвы і ўзорам сужэнскага жыцця. Я дзякую Усявышняму за сілы, якія Ён мне даваў, за семінарыйных выкладчыкаў і выхавальнікаў, якія дапамаглі мне атрымаць добрую адукацыю і выхаванне.

**– Якімі былі Вашы першыя крокі служэння?**

– Магу сказаць, што тут мне вельмі пашанцавала. Першыя крокі не былі лёгкімі, але шчасце ў тым, што на сваім шляху я сустрэў добрых людзей, якія мяне прынялі і падтрымалі. А гэта вернікі парафіі ў в. Парыж, в. Казлоўшчына і в. Ляхаўшчына Пастаўскага раёна, сярод якіх мне давялося працаваць першыя два гады пасля заканчэння семінарыі. Шчыра дзякую ім за вельмі добры “старт” майго душпастырскага служэння. У семінарыі нам часта паўтаралі: менавіта ад яго часта залежыць поспех і ўсяго далейшага жыцця.

**– Чым запомніліся два гады працы ў парафіі в. Ідолта Мёрскага раёна?**

–Найпершдобразычлівымі, шчырымі вернікамі. Яны ва ўсім дапамагалі, паважалі мяне і цанілі маю працу. Да парафіі ў Ідолце належаць таксама капліцы ў в. Малое Дзедзіна і в. Забалоцце. Хачу добрым словам успомніць жыхароў гэтых і суседніх вёсак, з якімі мне даводзілася часта сустракацца, размаўляць і вырашаць розныя пытанні. Я вельмі ўдзячны ўсім вернікам гэтай парафіі за іх добрае сэрца, ахвярную працу і гатоўнасць дапамагчы. Гэта быў вельмі шчаслівы час майго святарскага служэння і гаспадарчай працы.

**– Яшчэ адзін год вы правялі ў парафіі в. Мосар Глыбоцкага раёна, дзе на працягу многіх гадоў служыў Богу, касцёлу і людзям ксёндз-прэлат Юзаф Булька. Усе яго ведалі як незвычайнага чалавека і святара, ён пакінуў пасля сябе багатую духоўную спадчыну. Што дала Вам праца на мосарскай зямлі?**

– Сапраўды, святой памяці ксёндз-прэлат Юзаф Булька быў вельмі мудрым і духоўна багатым чалавекам. Мне пашчасціла яму дапамагаць, слухаць яго парады, быць сведкам, як шмат людзей прыязджае ў Мосар, каб убачыць навакольную прыгажосць і паразмаўляць са святаром, каторы так цудоўна рэалізаваў свае задумы. Шкада, што ў хуткім часе ксёндз Юзаф памёр, і Мосар, можна сказаць, асірацеў. Мяне чакала новае месца працы – г. Дуброўна, што на самай мяжы з Расійскай Федэрацыяй.

**– Раскажыце нам, калі ласка, пра адметнасці Вашай працы ва ўсходнім рэгіёне.**

– Сонца раней узыходзіць, трэба раней прачынацца... А калі сур'ёзна, то працы хапае, нягледзячы на тое, што вернікаў каталіцкага веравызнання на Дубровеншчыне істотна менш, чым у тых парафіях, дзе мне давялося да гэтага часу працаваць. Але патрэба святара ў парафіі адчуваецца. Для мяне адметнай з'яўляецца тая акалічнасць, што пяць гадоў майго святарскага служэння прысвечана якраз працы ў Дуброўне, дзе мне давялося займацца яшчэ і справамі будовы новага касцёла ў гонар Маці Божай Фацімскай. Спадзяюся, што ў недалёкім будучым запрашу Вас і ўсіх чытачоў газеты на ўрачыстасць асвячэння новага касцёла на дубровенскай зямлі.

**– Ці часта Вы бываеце на Лынтупшчыне?**

– Прызнаюся, на Лынтупшчыне я вельмі рэдкі госць, адлегласць у 350 км у адзін бок часта пераадольваць нялёгка. Але ведаю і адчуваю, што на радзіме я жаданы госць, што мяне заўсёды чакае ксёндз Павел, чакаюць усе вернікі парафіі, мае землякі. Я ім вельмі ўдзячны за гэта і часта за іх малюся. Заўсёды з самымі светлымі пачуццямі ўспамінаю сваіх школьных настаўнікаў – класнага кіраўніка А. А. Чалка, таксама Л. Ф. Кавальскую, М. І. Нячаеву, Г. П. Шчыт і іншых, вернікаў з Лынтуп, вёсак Шудаўцы, Свірдуны, Ігнацішкі... Назаўсёды ў маёй памяці і тыя, каго, на жаль, сёння ўжо няма побач.

**– З якімі яшчэ думкамі Вы перажываеце юбілей свайго святарства?**

– У гэтыя дні мне хацелася б прыгадаць словы з пісьма маёй былой настаўніцы беларускай мовы і літаратуры Наталлі Францаўны Мацур, якое я атрымаў з яе рук 25 мая 1996 года, калі быў ужо выпускніком Лынтупскай школы. Вось што яна напісала:

*“Мілы мой хлопчык! Я захапляюся табой і тваім выбарам, больш за тое, я ўпэўнена, што ты гэта зможаш. Але пакуль не позна, затрымайся на хвілінку і яшчэ раз падумай, яшчэ раз усё ўзваж, каб пасля не выракацца, не шкадаваць, не збочыць ні на крок з гэтага шляху. Ты на гэта не будзеш мець права, бо гэта Яго шлях, што можа быць страшней? Таму – падумай.*

*І ўсё ж, калі ты станеш на гэту дарогу, памятай, што ў цябе ёсць Мова, Радзіма, Бацькі, Людзі. Усяму гэтаму павінна знайсціся месца ў тваім вялікім, шчырым, добрым сэрцы, бо ў гэтым сэрцы ёсць Бог. І мне вельмі хацелася б, каб у ім знайшлося месца літаратуры, няхай яна будзе для цябе крыніцай роздуму і красамоўя.*

*Сілаў табе і веры, веры ў тое, што твой шлях правільны. Хай беражэ цябе Бог!”*

Я вельмі ўдзячны ёй за гэтыя радкі, яны заўсёды для мяне вельмі дарагія, асабліва ўлічваючы тыя абставіны, што Наталля Францаўна заўчасна пайшла з жыцця.

На заканчэнне нашай размовы хачу прыгадаць словы малітвы, якая была змешчана на маіх прыміцыйных абразках, што я раздаваў 15 мая 2005 года ў дзень маёй Першай святой Імшы ў касцёле ў Лынтупах: “Маці Міласэрнасці, Табе давяраю скарб майго святарства і ўсіх тых, хто дапамог мне дайсці да алтара Твайго Сына”.

*Гутарыла*
**Іна Сняжкова**


Кс. Уладзімір Шымковіч са сваімі парафіянамі ў Дуброўне

# Беларусы ў Камеруне



**Беларусы Арцём Ткачук і яго нарачоная Марта Бекіш – валанцёры дабрачыннай місіі Foyer St. Dominique ў камерунскай сталіцы Яўндэ. У гэтым інтэрв'ю Арцём раскажа "Каталіцкаму Весніку" пра сваё служэнне.**

**– Арцём, якім чынам Вы сталі валанцёрам у далёкім Камеруне?**

– З маёй нарачонай мы прыехалі сюды ў кастрычніку 2014 года. Амаль за год да гэтага мы пазнаёміліся з айцом Дарыюшам Гадавам, польскім дамініканцам, які з'яўляецца заснавальнікам місійнай пляцоўкі Foyer St. Dominique. Ён збіраў грошы на сваю місію ў касцёле і казаў пра тое, што запрашае маладых людзей да сябе. Вось мы і напрасіліся. Скончылі чацвёрты курс універсітэта, узялі акадэмічны адпачынак і паехалі.

**– Раскажыце, калі ласка, пра місію Foyer St. Dominique.**

– У місіі жыве 30-35 асобаў дзяцей і моладзі. Пачынаючы ад Ванцьян, якой тры гады, і заканчваючы Мбомба, якой пад 30. Яна робіць заключную практыку пасля ўніверсітэта ў лабараторыі (яна біяхімік). Усе тут жывуць, ядуць, адпачываюць, спяць.

Гэта дзіцячы дом, які існуе з 1997 г. Не ўсе дзеці, што тут жывуць, сіроты. У значнай часткі ёсць маці ці тата. Але ні ў кога няма дваіх бацькоў. Ёсць поўныя сіроты: у гэтым годзе памерла маці траіх дзяцей, якія ў нас жывуць. Фабрыса проста з вуліцы прывяла адна законніца, што яго падкармлівала і гэтак далей. Палігамія тут існуе ў адкрытым выглядзе. У Foyer ёсць паўбраты ці паўсёстры, гэта значыць, дзеці ад адной маці, але розных бацькоў. Перамешана гэта ўсё. Але галоўнае мэта місіі – дзеці. Яны ж ні ў чым не вінаватыя.

Таксама Foyer аплочвае школу 200 дзецям з бедных сем'яў. Ды і самім сем'ям нейкія сродкі на ўтрыманне малых даюцца. Самых здольных накіроўваем на вучобу ў Польшчу.

**– У чым заключаецца менавіта Вашае служэнне?**

– Галоўная мэта нашага прыезду – пазашкольныя заняткі. Марта выкладала англійскую, займалася з наймалодшымі, я праводзіў заняткі па геаграфіі, матэматыцы, гісторыі. За год удалося арганізаваць збор сродкаў на лячэнне адной глуханямой дзяўчынкі. Купілі новыя маразільнік і газавую пліту. Рабілася і шмат іншай працы. Місія можа прыняць да 60 дзяцей, але не можа сабе гэтага дазволіць. Няма сродкаў. Таму валанцёрам трэба і дзецьмі займацца, і новых спонсараў шукаць, і нешта па гаспадарцы рабіць. Працы хапае. На наступны год няма ахвотных прыехаць. Можа, які чытач хацеў бы, дык няхай скантактуецца.

**– Хацелася б падрабязней даведацца пра духоўнае жыццё камерунцаў...**

– Тут Афрыка, тут усё па-іншаму. Гісторыя хрысціянства ў Камеруне пачалася толькі ў канцы 19 стагоддзя, таму тут шмат паганскіх элементаў. Трэба яшчэ шмат часу. У Касцёл хадзіць любяць, пры парафіях існуюць па 3-4 хоры, шмат малітоўных груп. Тут ніхто не цураецца крыжа, ружанца, Бібліі. На таксоўках модна пісаць урыўкі з Псальмаў. Святароў усе паважаюць. А вось а. Дарыюш у сваёй парафіі за 20 гадоў асвяціў 20 шлюбаў, пры тым што адна камерунка ў сярэднім нараджае 5 дзяцей і 45% насельніцтва складаюць асобы да 15 гадоў. Адны рэчы ў каталіцтве культура прымае хутка, іншыя павольна.

**– Як выглядае звычайны дзень?**

– Дзень пачынаецца а 06.00 св. Імшой. Дзеці прачынаюцца раней, а 4-5 гадзіне раніцы, каб перад службай прыбраць свае ўчасткі місіі, памыцца, нешта яшчэ зрабіць. Пасля літургіі ўсе хутка збіраюцца і ідуць у школу. Наступае цішыня. Мы як валанцёры рыхтуем заняткі, робім розныя справы, якія датычаць місіі. Пасля 14.30 дзеці вяртаюцца са школы. Пачынаецца вірлівае жыццё, мы называем гэта "млын". Шум, гам, крыкі (усміхаецца). Ну як з дзецьмі, карацей... Прыходзіць рэпетытар і робіць дамашняе заданне з пачатковай школай. Марта займацца чацвёркай дзяцей з дзіцячага садка, я крыху "мучаю" старэйшых. А 17.30 – штодзённы ружанец, пасля яго пачынаюцца заняткі, пра якія я пісаў. А 19.00 – вячэра. Пасля яе мы праводзім яшчэ агульныя заняткі. Дзесьці а 21.30-22.00 усе кладуцца спаць. Чым менш вольнага часу для дзяцей – тым лепш.

**– Што найбольш уразіла ў Камеруне?**

– Сямейныя адносіны для мяне былі хіба што найбольшым "космасам". Паўбраты, паўсёстры, у маці трое дзяцей – і ўсе тры ад розных бацькаў, паўсюдныя цялесныя пакаранні малых. Спачатку есць дарослы, а што пасля яго застанецца, даядаюць дзеці і інш. Шмат чаго. Але пасля нейкага часу гэта ўжо не ўражвае. Чалавек жа прызвычайваецца. Ужо і беднасць падаецца не такой страшнай, і голад, і хваробы. Ніколі не думалі з Мартай, што колер скуры можа адыгрываць такую ролю ў жыцці. Тут ты белы, цябе называюць "белы" і да цябе ставяцца зусім паіншаму, чым да чорнага. І калі для еўрапейцаў гэтае азначэнне "белы\чорны" надта нязвыклае, дык тут гэта нармальна. Нічога дрэннага.

**– Раскажыце, калі ласка, пра людзей. Чым яны адрозніваюцца ад беларусаў?**

– Як паглядзець на ўсё гэта. З аднаго боку, усе ж людзі, з іншага – мы вельмі розныя, як белае і чорнае (усміхаецца). Амаль не п'юць гарэлкі, але любяць піва. Радасці і ўсмешак на вуліцы нашмат болей, чым у нас. Пунктуальнасць адсутнічае, а ў Бога вераць усе. Карацей: як убачыце камерунца і беларуса, адразу зразумееце, хто ёсць хто (усмешка).

**– Як набыць вопыт місіянерства? З чаго пачаць?**

– У кожнага свой шлях. Адны робяць курсы спецыяльныя, рыхтуюцца да выезду, іншыя – адразу едуць. Нехта лічыць, што ў Беларусі дастаткова бедных дзяцей і ім трэба дапамагаць, а не па Афрыках ездзіць і шукаць гуз на галаву. І хто мае рацыю і ці ёсць яна ўвогуле – невядома. З намі а. Дарыюш сустрэўся, праверыў, ці ўсё нармальна ў нас з галавой і сказаў прыязджаць. Мы, дзякуючы дазволу біскупа Кашкевіча, назбіралі сродкаў на місію па парафіях Гродзеншчыны і паехалі. Але ўсё гэта трэба рабіць з Богам. Чуў гісторыі, калі людзі хацелі прадаваць усю маёмасць і прыязджаць на ўсё жыццё евангелізаваць Афрыку, але пасля трох месяцаў вярталіся дадому. А былі такія, што як першы раз ляцелі, дык у самалёце моцна напіваліся, а пазней па 20-30 гадоў тут працавалі.

**– А якія далейшыя планы? Калі збіраецеся вяртацца ў Беларусь?**

– Вяртаемся 11 чэрвеня. У жніўні ў нас з Мартай шлюб. Магчыма, а. Дарыюш да нас прыедзе. А пазней будзем жыць, неяк дапамагаць місіі, шукаць працу, збіраць грошы на жыллё, купляць першую машыну, цешыцца з першага дзіцятка – карацей, так, як і ў нашых аднагодкаў. Можа, калі-небудзь вернемся ў Камерун, хто ведае Божыя планы? А пакуль што марым пра пельмені з кетчупам і смятанай, думаем пра вяселле і ўжо пачынаем сумаваць па нашых камерунскіх выхаванцах.

*Гутарыла* ***Ірына Грэйць***





# Ці думалі Вы стаць святаром або манахіняй?



**Аляксандр Танана:**
– Я з’яўляюся міністрантам ужо 13 гадоў. Ці думаў я стаць святаром? Думаў, і не аднойчы. Але кожны раз прыпамінаў сабе словы майго сябра, які зараз вучыцца на святара. Ён казаў, каб я вельмі добра падумаў, бо гэта складаны шлях. Стаць святаром – значыць адмовіцца ад таго, што мяне зараз цікавіць, чым я займаюся. Трэба цалкам прысвяціць сваё жыццё Богу. Для мяне гэта будзе складана. Некаторыя кажуць, што можна паспрабаваць. Аднак навошта спрабаваць, калі не адчуваеш у сэрцы сапраўднага пакліканння?



**Святлана Боркіна:**
– У тым узросце, калі пачынаюць задумвацца аб пакліканні, я не хацела быць манахіняй. Увогуле мала на гэта звяртала ўвагу. Быў перыяд СССР і перабудовы. Сур’ёзна цікавіцца верай я пачала дзесьці пасля 30 гадоў. З сённяшнім розумам усё магчыма – я б магла захацець стаць манахіняй. Мне вельмі сімпатычныя такія асобы, як св. сястра Фаўстына, св. айцец Піа, св. Ян Боска, св. Максімільян Кольбэ, св. Ян Марыя Віянэй, св. Тэрэза. Асабліва захапляюся іх мужнасцю, верай і жыццём.

**Духоўныя асобы з’яўляюцца прыкметай Бога ў розных сферах жыцця. Праз іх людзі чуюць голас Хрыста. Кожная духоўна асоба – дар для супольнасці Касцёла. А ці думалі чытачы “Каталіцкага Весніка” стаць святаром або манахіняй?**

*Падрыхтавала Ірына Грэйць*



**Айцец Аляксандр Махнач, ордэн піяраў:**
– Прагненне стаць законнікам-святаром я распазнаў яшчэ ў 9-м класе школы. Спачатку хацеў быць настаўнікам і вучыць дзяцей, але пачаў заўважаць, што мяне ўсё неяк болей «цягне» ў касцёл, на святую Імшу і набажэнствы. Было неймавернае прагненне быць з Езусам.

Але ж я хацеў быць настаўнікам! Што рабіць? Я шмат маліўся, каб Бог даў мне магчымасць ясна распазнаць сваё пакліканне. Удзельнічаючы летам у «канікулах з Богам», якія арганізоўвалі айцыпіяры, я заўважыў штосьці вельмі важнае для мяне ў распазнанні пакліканя. Святары і піярскія семінарысты вельмі цікава працавалі з дзецьмі і моладдзю. Два ў адным: настаўнік + святар = піяр! І так сталася! Я моцна веры́ў у тое, чаго прагнуў ад мяне Езус, і не памыліўся!

Сёння я ў школе Езуса Хрыста, і нясу сваё служэнне Богу і Яго Касцёлу ў харызме св. Юзафа Каласанса, дбаючы асабліва пра навучанне і выхаванне дзяцей і моладзі. Пакінуўшы ўсё, я знайшоў шчасце!



**Валерый Доўгань:**
– Я думаю, што кожнага верніка наведваюць такія думкі. Я ў Касцёл прыйшоў ужо будучы жанатым. Думкі так і засталіся думкамі. Але пакліканне жанатага чалавека пачынаецца з таго моманту, калі адбываецца шлюб у касцёле. Вельмі важна маліцца аб пакліканні для сваіх дзяцей і ў свой час дапамагчы ім пачуць Божы провід.



**Вольга Монцік:**
– Калі ў дзіцячым садку ў мяне пыталіся, кім я хачу стаць, то я адказвала, што хачу быць манахіняй. Мне падабалася жыццё сясцёр, калі я хадзіла да іх на катэхезу. Яны жывуць акуратна, у чысціні. Заўсёды мелі шмат прысмакаў на кухні. Тады я была 5-6-гадовай дзяўчынкай і думала, што гэта вельмі “крута”, мне таксама так хацелася. Але ў старэйшым узросце, калі пачала ездзіць на рэкалекцыі і размаўляла з сёстрамі, то зразумела і ўбачыла, што манаскае жыццё не такое лёгкае. Гэта штодзённыя выпрабаванні і праца над сабой. Калі казаць шчыра, то не адчувала моцнага пакліканя. Можа, толькі часам хацелася збегчы ад праблем і складанай будучыні і пайсці ў манастыр. Але, на мой погляд, калі штосьці робіш – рабі гэта добра, а не абы-як. Так і з пакліканнем. На сённяшні дзень адчуваю пакліканне да сямейнага жыцця. Бог дае чалавеку шчасце ў любым пакліканні.

## Вынікі апытання на сайце Catholicnews.by і ў Facebook, Укантакце, Аднакласніках:



**Ці думалі Вы стаць святаром або манахіняй?**

- Часам з’яўляюцца мімалётныя думкі (84 галасы);
- Так, але гэта было даўно і несур’ёзна (52 галасы);
- Думкі пра гэта не даюць мне спакою (49 галасоў);
- Думаю, але ажыццявіць гэта ўжо позна (36 галасоў);
- Ніколі не думаў пра гэта (31 голас);
- Ажыццявіў думку і стаў духоўнай асобай (21 голас).

**Усяго галасоў – 273**



## ПЕРШАЯ ПАРАФІЯДА ДЗЯЦЕЙ І МОЛАДЗІ ВІЦЕБСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ

### 11-14 ЖНІЎНЯ 2015 г.

### ОРША

**Узрост:** 10-17 гадоў

**Колькасць удзельнікаў ад парафіі:** 10 дзяцей + 2 дарослыя.

**Запіс у электронным варыянце** – да 30 ліпеня 2015 г.

Падчас парафіяды адбудуцца спаборніцтвы ў намінацыях: СТАДЫЁН, ТЭАТР, СВЯТЫНЯ.

**Пры сабе мець:** добры настрой, духоўны намер, гумар і жаданне стаць лепшым.

***Парафіяда – гэта сучасны выклік маладому пакаленню, каб праз розныя спартыўныя спаборніцтвы, тэатральныя здольнасці, адукаванасць і духоўнае багацце навучыцца разам праслаўляць Бога, быць сапраўдным сведкам Езуса і пераказваць іншым пасланне хрысціянскай веры.***

**Больш падрабязная інфармацыя** па тэл.: +375292169982 – кс. Валеры (адказны за Парафіяду); +375295969941 – Кацярына (валанцёрскае згуртаванне); або пішыце на адрасы: parafiadavd@mail.ru; parafiada.vd@mail.ru

## Біскуп Віцебскі Алег Буткевіч абраны віцэ-старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі

**3 чэрвеня 2015 г. у Душпастырскім цэнтры ККББ у Мінску адбылося 59-е пленарнае пасяджэнне Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі, на якім прысутнічалі ўсе яе члены. У пасяджэнні таксама прыняў удзел Апостальскі Нунцый у Беларусі арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці.**

Апостальскі Нунцый на пачатку пасяджэння падсумаваў візіт у Беларусь Дзяржаўнага сакратара Папы Францішка кардынала Пэтра Параліна, адзначыўшы, што гэтым візітам было зацікаўлена шырокае кола грамадскасці, дзяржаўныя ўлады, а таксама што гэтая падзея была шырока асветлена ў СМІ.

Падчас пасяджэння згодна са статутамі ККББ адбыліся выбары Старшыні, Намесніка старшыні і Генеральнага сакратара ККББ.

У выніку Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў Беларусі быў абраны Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, Віцэ-старшынёй — біскуп Віцебскі Алег Буткевіч, Генеральным сакратаром — дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.

*Паводле catholic.by*



# У Ваўкавыску асвечаны новы касцёл



**Парафія святога Станіслава Косткі ў Ваўкавыску 13 чэрвеня адзначыла вялікую падзею: асвячэнне новага касцёла. Па запрашэнні біскупа Аляксандра Кашкевіча і пробашча ксяндза Алега Дуля вернікаў наведаў Апостальскі Нунцый у Беларусі Клаўдыё Гуджэроці, які і здзейсніў абрад асвячэння.**

**кс. Віктар Місеіч**, *тэкст;* **Марына Сінкевіч**, *фота*

Парафія св. Станіслава Косткі была заснаваная ў 1926 годзе. Асноўнай групай вернікаў у той час былі працаўнікі чыгункі. У гэтым жа годзе пабудавалі і драўляны касцёл. Аднак у 1947-ым ён быў забраны савецкай уладай і перароблены пад склад. Пазней з касцёла зрабілі жылы дом, дзе пасялілася 8 сем'яў. Толькі ў 1997 годзе святыня была перададзеная вернікам, але ў вельмі кепскім стане. Тады вырашылі яе цалкам перабудаваць. За нялёгкую працу ўзяўся ў 2000 годзе кс. Андрэй Бародзіч, пад чыім кіраўніцтвам пачалося будаўніцтва. У 2007-ым працу працягнуў кс. Алег Дуль, які і завяршыў узвядзенне новага касцёла.

На ўрачыстасць у Ваўкавыск з'ехаліся святары і вернікі з розных парафій Беларусі. Цікава, што сам касцёл ад раніцы быў зачынены аж да моманту сустрэчы Апостальскага Нунцыя. Шаноўнага госця сустрэлі хлебам і соллю, пасля чаго адбыўся абрад адкрыцця дзвярэй святыні. Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці тройчы стукнуў ключом у дзверы, запрасіўшы сабраных увайсці ў Божы дом.

Асвячэнне касцёла пачалося малітвай і акрапленнем сцен святой вадой. Нунцый прайшоў праз касцёл, акрапляючы будынак. Прамаўляючы Божае слова, арцыбіскуп заўважыў, што гісторыя Ваўкавыскай парафіі – гэта адлюстраванне гісторыі ўсяго беларускага грамадства, якое зведала няпростыя выпрабаванні. Іерарх заклікаў прысутных быць вернымі наступніку апостала Пятра – біскупу Рыма. Гэтая вернасць можа прывесці да выпрабаванняў, але трэба быць моцнымі, таму што Касцёл збудаваны на камені, якім ёсць Хрыстос.

Пасля казання вернікі заспявалі Літанію да ўсіх святых, была прачытаная малітва пасвячэння. Абрад асвячэння святыні працягнуўся намашчэннем сцен святым алеем. Арцыбіскуп Клаўдыё Гуджэроці і біскуп Аляксандр Кашкевіч намасцілі сцены, пазначаючы іх знакам крыжа. Намашчэнне азначае прыналежнасць Богу. Касцёл св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску з'яўляецца, такім чынам, святой пабудовай і належыць ужо толькі Госпаду.

> **"Няхай у касцёле яснее святло Хрыста, каб усе народы пазналі праўду!"**

Пасля намазання сцен святым алеем было запаленае кадзіла, і духмяны водар напоўніў касцёл. Апостальскі Нунцый прайшоў праз святыню, акаджваючы яе і прысутных. Дым кадзіла сімвалізуе малітвы вернікаў, якія будуць узносіцца ў новаасвечаны святыні.

Пасля акаджвання прагучаў заклік з вуснаў цэлебранса: "Няхай у касцёле яснее святло Хрыста, каб усе народы пазналі праўду!" З гэтымі словамі пробашч парафіі кс. Андрэй Дуль запаліў свечкі на сценах касцёла. Святло было запаленае ва ўсёй святыні.

Будаўніцтва касцёла св. Станіслава Косткі ў Ваўкавыску стала магчымым дзякуючы працавітасці і салідарнасці вернікаў. Цікава, што пробашч парафіі сам асабіста збіраў металалом, каб мець неабходныя сродкі на пабудову. Дапамагалі і вернікі з парафіі св. Вацлава ў Ваўкавыску, а таксама парафіяне з парафій у Лідзе, Гродне і іншых мясцовасцей. Цяпер жа застаецца галоўнае: пабудаваць жывы Касцёл у сэрцах людзей.





# Для чаго абіраецца касцельны камітэт?

*Хвала Хрысту.*
*Для чаго абіраецца касцельны камітэт? Якія яго функцыі і якімі нарматыўнымі дакументамі рэгламентуецца яго дзейнасць?*
*Зоя Растоўская, г. Глыбокае*

**На пытанне адказвае а. Аркадзь Куляха OCD:**

– Згодна з навучаннем Касцёла, парафія – гэта супольнасць вернікаў, сфарміраваная ў партыкулярным Касцёле, над якой душпастырскі клопат пад уладай дыяцэзіяльнага біскупа даручаецца пробашчу як уласнаму пастыру (Пар. “Кодэкс Кананічнага права”, кан. 515 - § 1). Другі Ватыканскі Сабор сцвярджае, што парафіі прадстаўляюць бачны Касцёл, устаноўлены на ўсёй зямлі (Пар. “Канстытуцыя пра святую Літургію”, 42). Ва ўзгаданым дакуменце гаворка ідзе таксама пра парафіяльную супольнасць вернікаў. Варта ў гэтым месцы нагадаць, што жыццё вернікаў грунтуецца на перакананні ў тым, што збаўляе Бог – Езус Хрыстус, Які напаўняе надзеяй сваёй прысутнасці згодна са словамі: *“Я з вамі ва ўсе дні аж да сканчэння веку”* (Мц 28, 20).

У парафіі і дзякуючы ёй вернік уваходзіць у супольнасць партыкулярнага Касцёла, г. зн. у дыяцэзію, а таксама становіцца чальцом паўсюднага Касцёла, які ёсць Містычным Целам Хрыста. Узгаданая повязь парафіі з паўсюдным Касцёлам мае вельмі вялікае значэнне для разумення ролі самой парафіі.

Упершыя стагоддзі хрысціянства ўсё касцельнае жыццё канцэнтравалася вакол біскупа як пастыра, пераважна ў горадзе, дзе жыла вялікая колькасць вернікаў. Біскупу ў служэнні дапамагалі святары і дыяканы. З цягам часу, калі Касцёл распаўсюджваўся, узнікла неабходнасць будаваць новыя святыні ў аддаленасці ад біскупскай сталіцы. Дзеля духоўнага дабра вернікаў біскупы прызначалі святароў, адказных за душпастырства ў супольнасцях, якія сталі называць парафіямі.

Хоць супольнасць вернікаў, у тым ліку парафія, сфарміравана вакол таямніцы жывога Бога, прысутнага ў ёй, але жыве яна на зямлі і складаецца з людзей, таму для належнага функцыянавання патрабуе правілаў і нормаў. Парафіі ў нашай краіне ажыццяўляюць сваю дзейнасць у адпаведнасці з “Кананічным правам Паўсюднага Касцёла”, пры захаванні Канстытуцыі і актаў заканадаўства Рэспублікі Беларусь. Кожная парафія мае статут, на падставе чаго атрымлівае рэгістрацыю дзяржаўных органаў. Гэтым і вызначаецца сфера яе дзейнасці.

“Кодэкс Кананічнага Права” ў каноне 536 пакідае дыяцэзіяльнаму біскупу магчымасць стварэння ў парафіях душпастырскай рады, якую ўзначальвае пробашч. Яе чальцамі павінны быць вернікі і тыя, хто па прызначэнні ўдзельнічае ў душпастырскім клопаце парафіяльнай супольнасці. У 1015 нумары “Статутаў Сінода Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі, Пінскай і Віцебскай дыяцэзій” сустракаем рэкамендацыі ствараць у парафіях душпастырскія рады. Згаданыя статуты сцвярджаюць, што склад такой рады павінен прадстаўляць усю парафіяльную супольнасць, таму яе чальцамі могуць быць пад кіраўніцтвам пробашча святары-вікарыі, рэктары касцёлаў, прадстаўнікі кансэкраваных асобаў, катэхеты, рэпрэзентанты парафіяльных груп і рухаў, а таксама іншыя парафіяне, якім давяраюць вернікі. Канон 537 “Кодэкса Кананічнага права” пастанаўляе, што ў кожнай парафіі павінна быць рада па эканамічных справах, чальцы якой дапамагаюць пробашчу пры выкананні адміністрацыйных заданняў, которыя датычаць маёмасці, матэрыяльных дабротаў і фінансаў парафіі. Дзве рады кіруюцца паўсюдным правам і нормамі дыяцэзіяльнага біскупа.

Узгаданы вышэй Статут у 1023 нумары тлумачыць узнікненне касцельных камітэтаў і іх заданні, якія, паводле меркавання Айцоў Сінода, супадаюць у нейкай ступені з заданнямі рады па эканамічных справах. Згодна з дзяржаўным заканадаўствам, касцельны камітэт з’яўляецца выканаўчым і распараджальным органам парафіі. Яго дзейнасць рэгулюецца статутам парафіі, зацверджаным дыяцэзіяльным біскупам і дзяржаўнай уладай, які захоўваецца ў архіве парафіі. Да заданняў касцельнага камітэта належыць перадусім забеспячэнне належнага стану касцёла, іншых культавых будынкаў і пабудоў, забеспячэнне парафіі ўсім неабходным для правядзення Божага культу, абрадаў, працэсій і іншых мерапрыемстваў. Гэты ж камітэт павінен таксама дбаць пра фінансавыя справы парафіі, у тым ліку заключаць дагаворы з юрыдычнымі і фізічнымі асобамі, а таксама займацца тым, што служыць дабру парафіяльнай супольнасці. Неабходна, каб касцельны камітэт выконваў свае заданні ў поўным паразуменні з прызначаным дыяцэзіяльным біскупам пробашчам, які ёсць айцом і пастырам парафіі. Кампетэнтны, мудры і актыўны камітэт можа дзейсна дапамагаць пробашчу.

Касцельны камітэт выбірае парафіяльны сход, г. зн. уся парафіяльная супольнасць з шанаваных вернікаў, якія прызнаюць вучэнне Каталіцкага Касцёла, рэгулярна ўдзельнічаюць у набажэнствах, прымаюць сакраманты і не звязаны касцельным пакараннем, якое выключае паўнавартасны ўдзел у жыцці Касцёла.

Другі Ватыканскі Сабор у 15 нумары “Дэкрэта пра місійную дзейнасць Касцёла Ad gentes” вучыць, што парафія – гэта знак Божай прысутнасці ў свеце, таму патрэбна, каб усе яе чальцы стваралі супольнасць веры, любові, праслаўлення і малітвы, а ў складаных момантах напаўняліся надзеяй, памятаючы пра словы Збаўцы: *“Па гэтым усе пазнаюць, што вы Мае вучні, калі будзеце мець любоў адно да аднаго”* (Ян 13, 35).



# Сям’я і сэкс. Цяжкія пытанні

***Хвала Хрысту! Падкажыце, калі ласка, як быць у такой сітуацыі. Нядаўна я приступала да генеральнай споведзі. Калі падышоў час спавядацца нанова, раптам усвядоміла, што паўтараю адзін і той жа грэх. Мы з мужам не карыстаемся натуральнымі метадамі распазнавання плоднасці, а выкарыстоўваем штучныя сродкі. Ведаю, што нельга прыступаць да споведзі, калі дакладна ўсведамляеш, што грэх, з якога спавядаешся, будзеш свядома рабіць нанова. Зараз я займаюся асвойваннем натуральных метадаў, каб пачаць прымяняць іх. Але на асваенне патрэбна некалькі месяцаў, каб некаторы час весці нагляд за сабой і пачаць правільна прымяняць іх на практыцы. Вельмі пакутую ад таго, што не магу прыступіць да споведзі і прыняць удзел у Эўхарыстыі. Мужа не падпускаць да сябе я таксама не магу, бо ён як чалавек, каторы не з’яўляецца вернікам, мяне не зразумее. Ці магу я ўсё ж такі прыступіць да споведзі ў такой сітуацыі?***
*Ірына*

**На пытанне адказвае кс. Кірыл Бардонаў:**

– Атрыманне адпушчэння грахоў на споведзі магчыма толькі пры адначасовым выкананні ўсіх асноўных актаў пенітэнта. Навука Касцёла да такіх актаў залічвае: жаль за грахі, шчырае прызнанне ў грахах і экспіяцыя за іх (Катэхізіс Каталіцкага Касцёла, 1491). Шчырае прызнанне ў грахах немагчымае без усведамлення гэтых грахоў, якое адбываецца падчас рахунку сумлення. Экспіяцыя за грахі звязана з выкананнем актаў пакуты, якая вызначаецца святаром. Жаль жа за грахі звязаны з намерам зрабіць усё магчымае, каб яны не паўтараліся.

У надзвычайных выпадках, напрыклад, у небяспецы смерці, адпушчэнне цяжкіх грахоў можна атрымаць без іх вызнання святару, тады іх трэба будзе назваць пры найбліжэйшай споведзі ў звычайнай форме. Ніхто не можа дазволіць не захоўваць істотныя ўмовы сакраманту споведзі, паколькі сакрамант споведзі ўстаноўлены самім Богам для тых, хто раскайваецца ў грахах.

“Каму адпусціце грахі, таму будуць адпушчаныя, на кім пакінеце – на тых застануцца”, – гэтыя словы Хрыста не азначаюць права святароў адвольна вырашаць, каму адпускаць грахі, але абавязваюць чуваць над выкананнем усіх умоў сакраманту пакаяння і паяднання. Галоўная ўмова споведзі – раскаянне, жаль за грахі. Раскаянне – гэта разрыў з грахом і вяртанне да Бога.

Калі чалавек не робіць усяго магчымага, каб грэх не паўтараўся, гэта значыць, што ён не раскаяўся, не разарваў з грахом і не можа атрымаць адпушчэння грахоў.

У Вашай сітуацыі варта звярнуцца да духоўнага кіраўніка.

# Обязательно ли носить крестик?

***Слава Иисусу Христу! Скажите: обязательно ли носить крестик? Спасибо!***

**На пытанне адказвае святар БГКЦ Аляксей Філіпенка:**

– Паколькі няма такога Божага або касцельнага наказу насіць нацельны крыжык, то і няма такога маральнага абавязку. Інакш кажучы, гэта не грэх – не насіць нацельны крыжык. Традыцыя насіць крыжык (або медалік) пачала існаваць у першыя стагоддзі хрысціянства. Нацельны крыжык даецца хрысціяніну падчас хросту. Ён становіцца знешнім знакам таго, што чалавек з’яўляецца вучнем Хрыста. Крыжык на шыі нагадвае перш за ўсё таму, хто яго носіць, пра выбар вузкага шляху збаўлення (Мф 7,14), пра вернасць Божым запаветам і вучэнню Царквы. Нацельны крыжык рэкамендуецца насіць не здымаючы ўвесь час. Аднак да гэтай рэкамендацыі трэба падыходзіць разумна, з практычнага пункту гледжання. Падчас мыцця, заняткаў спортам, летняга адпачынку, актыўных гульняў і інш. крыжык лёгка згубіць. А крыжык – гэта ўсё ж такі асвечаная рэч, і да яго трэба ставіцца з адпаведнай пашанай. Таму калі падчас нейкай дзейнасці існуе рызыка згубіць крыжык, то лепей яго зняць і пакласці ў надзейным месцы, каб потым зноў надзець.

# Общение в радость,

## или Что нужно знать для эффективного общения



**Наш с вами сегодняшний разговор пойдет о сложном, но в тоже время интересном и, я бы сказала, захватывающем процессе. Мы поговорим об общении.**

■ **Марина Ткач**, *социальный педагог*, *психолог*

Ни для кого не секрет, что общение – это неотъемлемая часть нашей жизни. На работе, во время учёбы, в транспорте, дома, на отдыхе, да мало ли где еще, мы постоянно вынуждены общаться. Этот процесс занимает львиную долю нашего времени.

Отмечу, что за последние годы психология общения получила широкое распространение и применение, ибо проблема общения весьма неоднозначна и актуальна. Особенно ярко эта проблема видна в нашем современном обществе, где реальное, «живое» общение заменяется его виртуальной имитацией, когда процесс общения происходит посредством интернета, скайпа, телефона, смс и т.д.

Общение – очень важный процесс. Оно дает человеку новый импульс, радость, наслаждение, которые помогают ему справиться со скукой, рутиной бытовой жизни, поднимают его на новые уровни в профессиональной деятельности, помогают расширить круг тех людей, кого в последующем мы будем считать своими друзьями. И в целом общение служит средством для нормальной социализации, адаптации в обществе.

В психологии под **общением** понимается *сложный многоплановый процесс установления и развития контактов между людьми, порождаемый потребностями совместной деятельности и включающий в себя обмен информацией, выработку единой стратегии взаимопонимания, восприятия другого человека.*

Другими словами, общение – это взаимодействие двух или более людей с целью обмена информацией. Также в ходе этого взаимодействия происходит восприятие другого человека – так называемая перцепция.

Наверное, у каждого из вас хоть единожды в жизни возникало ощущение, что собеседник в момент общения будто бы защищается, воздвигая невидимую стену между вами. Наличие этой «стены» в результате приводит к неудовлетворенности процессом коммуникации, вы злитесь то ли на самих себя, то ли на собеседника, при этом так до конца и не осознав, что же таки произошло на самом деле.

Эта «стена» в психологии трактуется как коммуникативный барьер, или барьер в общении. Это возникновение между оппонентами негативных чувств, разрушающих понимание. И здесь я хочу немножко рассказать вам о том, какие основные виды барьеров существуют.

■ **Семантический барьер.** Он встает на вашем пути тогда, когда вы и ваш собеседник под одними и теми же понятиями подразумеваете совершенно разные вещи. Такой барьер возникает практически всегда и везде, т.к. мы очень по-разному понимаем многие вещи. Например, для одной девушки хороший муж – это тот, кто любит ее, заботится о ней, зарабатывает достаточно денег, любит проводить с ней вместе время; а для другой – тот, который редко пьет и редко бьет ее. Поэтому, говоря на одну и ту же тему, – "какие же все мужики одинаковые!" – они на самом деле будут говорить о разном и могут столкнуться с непониманием друг друга.

■ **Логический барьер.** По сути, это неумение выражать свои мысли. В речи такого человека путаются причинно-следственные связи, происходит подмена понятий. Или ему бывает сложно подобрать слова для тех сложных мыслей, которые мелькают в его голове.

■ **Фонетический барьер.** Это плохая техника речи – когда непонятно, что говорит собеседник, и это мешает воспринимать информацию.

■ **Модальностный барьер.** Все мы получаем информацию из мира через пять органов чувств, однако один из них является приоритетным. Это и есть ваша модальность. Например, люди с визуальной модальностью лучше всего усваивают увиденную информацию, а вот услышанную – гораздо хуже. Зная об этом, старайтесь с ходу определить модальность вашего собеседника и использовать это: визуалу показывайте графики и схемы, с аудиалом играйте голосом, а к кинестетику почаще прикасайтесь и показывайте все "на пальцах". Используйте в речи соответствующие глаголы – например, "видеть", "слышать" или "чувствовать".

■ **Личностный барьер.** У каждого из нас есть характер, и некоторые его черты могут кого-то не устраивать. Но у кого-то эти черты настолько заострены, что его характер может быть барьером в общении. Это может быть связано с незнанием своих особенностей или с недостатком самоконтроля. Например, чрезмерная медлительность или, наоборот, суетливость могут раздражать партнеров по разговору.

■ **Мотивационный барьер.** Возникает тогда, когда у партнеров по общению разные мотивы вступления в контакт. Например, вы хотите поддержки от друга/подруги, а он/она хочет, чтобы вы обсудили новое платье или предстоящую рыбалку. В таком случае вы можете столкнуться с непониманием и даже поругаться.

■ **Барьер некомпетентности.** Часто встречается в совместной работе. Вас может злить некомпетентность партнера, когда он начинает говорить очевидные для вас глупости. Это вызывает чувство злости, досады и потерянного времени.

■ **Этический барьер.** Возникает в ситуации несовместимости нравственных позиций партнеров по общению.

■ **Барьер стилей общения.** У каждого из нас своя уникальная манера. Она зависит от темперамента, характера, воспитания, профессии и других факторов. Стиль общения включает в себя основной мотив (зачем вы общаетесь – самоутверждение, поддержка и т.д.), отношение к другим (доброта, терпимость, жестокость и т.д.), отношение к себе и характер воздействия на людей (давление, манипуляция, уговоры и т.д.)

■ **Эстетический барьер.** Возникает тогда, когда нам не нравится, как выглядит собеседник. Для его возникновения есть разные причины, например, если он неопрятно или неряшливо одет или вас раздражает что-то другое в его внешности.

■ **Социальный барьер.** Причиной затруднений в общении может быть разный социальный статус партнеров. Однако здесь важно помнить о том, что появление такого барьера в первую очередь связано с установками в сознании собеседников.

■ **Барьер отрицательных эмоций.** Согласитесь, довольно тяжело общаться с расстроенным или разозленным человеком. Многие из нас склонны принимать эти эмоции на свой счет (хотя бы отчасти). Здесь необходимо помнить о том, что зачастую причина плохого настроения собеседника кроется в каких-то иных вещах – обстановке в семье, проблемах на работе или личностном кризисе.

■ **Барьер установки.** Очень часто общение осложняется, если ваш партнёр изначально имеет не очень хорошее мнение о вас. В большинстве случаев правильнее всего будет обсудить этот вопрос и честно спросить об этом собеседника, попытаться объяснить ему, что он ошибается.

■ **Барьер "двойника".** Он заключается в том, что мы невольно думаем о нашем собеседнике как о самом себе: приписываем ему наши мнения и взгляды и ждем от него тех же поступков, которые сами бы совершили.

■ **Грубость и невежественность.** Все мы сталкиваемся с людьми, которые просто-напросто дурно воспитаны. Иногда такое общение нужно просто перетерпеть, особенно в том случае, когда человек не реагирует на замечания. Помните о том, что в общении с таким человеком у вас есть какая-то цель, и это явно не желание поставить его на место.

■ **Неумение слушать.** Оно проявляется в отсутствии интереса к тому, что вы говорите, стремлении говорить о себе или постоянном перебивании.

Как видим, барьеров достаточно много. В процессе общения может проявиться какой-то один барьер, а может возникнуть сразу несколько сочетаний данных барьеров.

И для того, чтобы по возможности минимизировать их появление, предлагаю вам несколько простых в использовании приёмов или правил для эффективного общения.

> **"Помните, что имя человека – самый сладостный для него звук.Так что запоминайте имена тех, с кем общаетесь, и используйте их в разговорах с этими людьми"**

**Итак, коротко правила эффективного общения можно сформулировать следующим образом:**

1. Интересуйтесь другими людьми, а не пытайтесь заинтересовать ими себя. Проявляйте настоящий интерес к окружающим вас людям. Научитесь понимать людей и сопереживать им.
2. Чаще улыбайтесь.
3. Помните, что имя человека – самый сладостный для него звук. Так что запоминайте имена тех, с кем общаетесь, и используйте их в разговорах с этими людьми.
4. Будьте хорошим слушателем. Поощряйте других людей говорить о самих себе.
5. Говорите о том, что интересует собеседника.



# Разважаем над Божым словам

**Разважанні, якія вам прапануем, пажадана чытаць, маючы перад вачыма тэкст са Святога Пісання, вызначаны на кожную нядзелю.**



**21 чэрвеня 2015 г. Мк 4, 35 – 41**

У хвіліну небяспекі вучні страцілі цярпенне. Нават пачалі абвінавачваць Езуса. Ён ім сказаў: "Чаму вы такія баязлівыя? Яшчэ не маеце веры?" Страх паказаў, што яны давяралі сабе і сіле сваіх рук. Або, у крайнім выпадку, Езусу, і то пры ўмове, што яны навучаць Яго, як, калі і што Ён павінен рабіць, каб іх выратаваць. Езус аб'явіў Божую моц. Верыць – гэта значыць, паміж іншым, прызнаваць моц Бога. Страх – гэта асяроддзе, дзе любіць паляваць д'ябал. Гэта час і стан, калі розум заглушаны, а разам з ім і сумленне. Трэба вучыцца захоўваць дыстанцыю. Мудры чалавек глядзіць на справы, у тым ліку і страшныя, з Божага пункту погляду.

*– Кім ёсць Езус у маім жыцці?*

*– У якіх справах, здарэннях я трачу цярпенне і цвярозую ацэнку рэчаіснасці?*

*– А можа, ёсць справы, ад якіх Езус хоча, каб я адмовіўся, а не перажываў празмерна?*

*– Як паводжу сябе, калі штосьці пайшло не так, як я сабе надумаў?*

*– Ці гатовы я памяняць свой светапогляд, думкі і планы?*

*– Ці дакладна хоча Бог усяго, што я хачу?*

*– Ці памятаю, што толькі Езус ёсць перамажцам і суддзёй?*

*– Ці размаўляю з Ім пра свае страхі? Ці прашу Яго, каб лячыў мае пачуцці?*

**28 чэрвеня 2015 г. Мк 5, 21 – 43**

Вера – гэта адкрытасць на Божае дзеянне. Мы верым, што Езус мае моц. Верым, што Ён нас любіць і хоча нашага шчасця. Такая вера вядзе да сапраўднай сустрэчы з Богам. Сапраўдная вера – гэта адкрыццё сэрца. "Не бойся, толькі вер," – гэта наш жыццёвы і хрысціянскі дэвіз. Трэба ісці да Езуса. Ён бачыць, чуе, любіць.

*– Ці дазваляю Богу рабіць цуды ў маім жыцці?*

*– Ці дазваляю Яму мяне перамяняць?*

*– Ці іду за Ім, калі Ён кліча?*

*– Ці шукаю Яго волі?*

*– Ці прымаю Яго ласкі, духоўныя дары?*

*– Што з імі раблю, калі і як карыстаюся імі?*

**5 ліпеня 2015 г. Мк 6, 1 – 6**

Езус патрабуе адкрытасці сэрцаў сваіх землякоў, каб праявіць сваю моц і ўмацаваць іх веру. Але Ён сустрэў сэрцы, закрытыя на Божы дар. Бог знаходзіць прастору для будаўніцтва Божага Валадарства ў адкрытых сэрцах. Такіх паслухмяных і адкрытых сэрцаў Ён шукае. Перакананне землякоў Езуса, што Божая справа не можа праявіцца ў іх будзённым жыцці, было памылковым. Такія паводзіны прывялі да адкідання Езуса. Такія паводзіны можам назіраць і сёння. Самі шукаем іншых касцёлаў, іншых святароў, іншых набажэнстваў, іншага жыцця. А Езус прыходзіць да нас тут і зараз.

*– Ці не пагарджаю сваім жыццём, сваёй парафіяльнай супольнасцю?*

*– Ці спадзяюся атрымаць ад Бога дары Яго ласкі?*

*– Ці прашу Яго аб духоўных дарах?*

*– Ці пытаюся пра Яго волю?*

*– Ці пытаюся, што Ён хацеў бы, каб я зрабіў са сваім жыццём?*

*– Ці цаню і разумею багацце "штодзённай" магчымасці карыстання Божай ласкай?*

*– Ці малюся, і як выглядае мая малітва?*

*– Як выглядае мая споведзь?*

*– Ці шукаю на ёй Езуса і Яго волі?*

*– Як я ўдзельнічаю ў святой Імшы?*

*– Што раблю, каб зразумець сэнс жэстаў і слоў на Імшы?*

*– Ці ўдзельнічаю ў Літургіі?*

*– Ці чытаю, ці слухаю і ці разважаю над Божым словам?*

*– Ці будую супольнасць маёй парафіі?*

*– А можа, сею нянавісць, зайздрасць, злосць?*

**12 ліпеня 2015 г. Мк 6, 7 – 13**

Езус пасылае сваіх вучняў, каб абвяшчалі Яго навуку. Самае галоўнае ў справе апосталаў – Езус і Яго навука. Абвяшчэнне Езуса павінна прыводзіць да Езуса, а не да засяроджвання на апосталах. Бог адарыў вучняў патрэбнымі ласкамі. Яны супрацоўнічаюць з імі, сціпла выконваючы Божую волю.

*– Каго абвяшчаю я: Езуса ці сябе?*

*– Каго хачу, каб людзі любілі: Езуса ці мяне?*

*– Каму прыпісваю славу: сабе ці Езусу?*

*– Можа, праз свае звычкі і словы я перашкаджаю людзям знайсці сапраўдную веру?*

*– Можа, я лічу сябе мудрэйшым за Касцёл і за Бога?*

*– Ці выконваю волю Езуса?*

*– Ці паказваю Яго дабрыню і любоў праз свае ўчынкі і словы?*

*– Ці бачу дары, якімі Бог мяне адарыў?*

*– Ці выкарыстоўваю іх згодна з Божай воляй?*

Разважанні падрыхтаваў
**кс. Павел Кнурэк**

---

**6.** Внушайте своему собеседнику осознание его значительности. Попытайтесь найти достоинства другого человека и искренне похвалите их. Так вы дадите людям почувствовать их уникальность.

**7.** Постарайтесь понять, почему люди поступают именно так, а не иначе. Не осуждайте и не критикуйте людей. Это разучит вас думать и будет заставлять лишь обороняться.

**8.** Развивайте в себе умение смотреть на мир глазами других.

**9.** Честно и искренне высказывайте одобрение, будьте чистосердечны в своей оценке и щедры на похвалу, но никогда не прибегайте к лести.

**10.** Научитесь говорить комплименты, но делайте это искренне.

Даже если вы все-таки столкнётесь с трудностями в общении, не отчаивайтесь и не опускайте руки, не замыкайтесь в себе. Помните, что вы обладаете уникальным и богатым внутренним миром, который открывается другому человеку только в общении.

***Общение – жизненно важно.***

Нередко в толпе людей можно заметить человека, который, пусть не в открытую, но разговаривает сам с собой, пытаясь тем самым восполнить дефицит общения, или же молодых людей, которые пытаются отгородиться от окружающего мира, в том числе от людей, наушниками со звучащей в них музыкой. Казалось, в этом нет ничего страшного. Но, как показывают результаты различных научных экспериментов, длительное отсутствие общения, в том числе и пассивного, вредит человеку. Он утрачивает чувство времени, может начать бредить, истерично кричать, возможно возникновение различных страхов (невроза).

***Общение*** – это улица с двусторонним движением. Мы обвиняем других в несложившихся отношениях, но вспомним старый совет: «Слушай других, если хочешь, чтобы слушали тебя».



**Общайтесь правильно. И пусть у вас всё получится!**

---

# Газетная закрыстыя

**Памятаючы пра просьбы нашых чытачоў, мы працягваем нашу рубрыку "Газетная закрыстыя".**

Кожны з вас, дарагія сябры, можа даслаць у газету інтэнцыю для адпраўлення св. Імшы. Многія жывуць далёка ад касцёла і не маюць магчымасці своечасова запісаць інтэнцыю св. Імшы. Зрабіць гэта можна праз газету "Каталіцкі Веснік". Дастаткова толькі выразаць бланк і запоўніць яго выразным почыркам.

Можна пісаць імёны блізкіх памерлых, а таксама імёны тых, хто патрабуе ласкі здароўя ці навяртання. Адзін запоўнены бланк азначае адну асобную інтэнцыю св. Імшы.

Затым запісаны бланк трэба даслаць на карэспандэнцкі адрас рэдакцыі:

***Газета "Каталіцкі Веснік" вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

Даслаць ахвяраванне на св. Імшу можна праз паслугу Белпошты. Вельмі пажадана, каб ахвяра за Імшу была не менш за 100 тысяч рублёў. Ёсць магчымасць замовіць грэгарыянскую св. Імшу, але зрабіць гэта можна, патэлефанаваўшы па тэл.: +375297365307.

Адправіць ахвяраванне можна па ніжэйнапісаным адрасе:

***Місевіч Віктар Мар'янавіч вул. Савецкая, 1 211800 г. Глыбокае Віцебскай вобл.***

### Хто адпраўляе св. Імшы ў гэтых інтэнцыях?

Гэта робяць святары ва ўсходніх раёнах Беларусі, дзе шмат небагатых парафій.

Дарагія сябры! Запрашаем Вас прыняць удзел у праекце "Газетная закрыстыя". Дашліце ахвяраванне на св. Імшу. Гэтым вы падтрымаеце святароў на ўсходзе краіны.

Будзьма адказнымі адно за аднаго. Будуйма Божае Валадарства ў нашай краіне разам! Няхай праз нашае супрацоўніцтва ў газеце "Каталіцкі Веснік" Касцёл у Беларусі мацнее і развіваецца на хвалу Божую і радасць людзям!

*Рэдакцыя*
*"Каталіцкага Весніка"*

## Інтэнцыя св. Імшы

| | |
|---|---|
| **Хто замаўляе** (Імя, прозвішча, індэкс, адрас і тэлефон) | |
| **Інтэнцыя св. Імшы** (за каго будзе адпраўлена св. Імша) | |

# Каляндар на ліпень

**2 ліпеня – урачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Будслаўскай, Апякункі Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі.**

У апошнія гады культ Маці Божай Будслаўскай, якую называюць Апякункай Беларусі, распаўсюдзіўся па ўсёй нашай краіне.

Цэнтр сværкавання – невялікая вёска на поўначы Мінскай вобласці, назва якой – Будслаў – вядомая сёння ва ўсёй Беларусі і за яе межамі. Там знаходзіцца Нацыянальны санктуарый Маці Божай Будслаўскай. Будслаўскі касцёл, адна з самых прыгожых і вялікіх святыняў на нашай зямлі, быў пабудаваны ў XVIII стагоддзі і з'яўляецца малой базылікай.

Кожны год у Будслаў ідуць і едуць тысячы пілігрымаў, каб ушанаваць Найсвяцейшую Панну Марыю, папрасіць праз Яе заступніцтва асаблівых ласкаў Божых і прыняць удзел ва ўрачыстым будслаўскім фэсце.

Галоўныя ўрачыстасці ў Будславе ў 2015 годзе адбудуцца 3-4 ліпеня.

**3 ліпеня – успамін святога Тамаша, апостала. Святы Тамаш, празваны Дыдым (Блізня), да паклікання ў супольнасць апосталаў быў рыбаком у Галілеі.**

Калі Езус у дзень уваскрасення з'явіўся апосталам, Тамаша сярод іх не было. Тамаш спачатку не паверыў у змёртвыхпаўстанне, а таму яго часта называюць "Тамаш, які не верыць".

Падчас наступнага з'яўлення Уваскрослы Збаўца звярнуўся да Тамаша, каб той на ўласныя вочы пераканаўся, што перад ім – сам Езус, на што Тамаш усклікнуў: "Пан мой і Бог мой!" Пасля ўнебаўшэсця Хрыста апостал накіраваўся ў місію ў Персію і Індыю, дзе, паводле падання, сустрэўся з трыма каралямі, ахрысціў іх і прызначыў біскупамі. Каля 72 г. прыняў мучаніцкую смерць у Індыі: быў забіты паганцамі мячом або дзідаю. Лічыцца апекуном горада Рыга, а таксама архітэктараў, будаўнікоў і геолагаў. Яго заступніцтва просяць, молячыся за шчаслівае сужэнства.

**11 ліпеня – успамін святога Бэнэдыкта, абата, апекуна Еўропы.**

Святы Бэнэдыкт – айцец манаства на хрысціянскім Захадзе – нарадзіўся каля 480 г. у Нурсіі (паўднёвая Італія) і паходзіў з багатай сям'і. Пакінуўшы вучобу ў Рыме, стаў жыць пустэльнікам. Праз пэўны час вакол яго сабралася шмат іншых манахаў, і каля 529 г. ён разам з паплечнікамі заснаваў на поўдні ад Рыма славуты кляштар Монтэ-Касіна. Асноўным правілам манаскага жыцця ў ім былі словы "Ora et labora" ("Маліся і працуй"), якія сталі дэвізам ордэна бэнэдыктынцаў. У Монтэ-Касіна Бэнэдыкт напісаў статут – Ordo Sancti Benedicti, – які стаў асновай для большасці манаскіх супольнасцяў Захаду.

Заснаваны ім ордэн бэнэдыктынцаў на працягу стагоддзяў быў найбольш значным духоўным, культурным і навуковым асяродкам Еўропы. У 590 г. бэнэдыктынец упершыню стаў Папам. Гэта быў святы Грыгорый Вялікі – славуты касцельны рэфарматар, які пакінуў найбольш звестак пра святога Бэнэдыкта (і пазней вельмі часта на Пасадзе святога Пятра знаходзіліся менавіта бэнэдыктынцы). Святы Бэнэдыкт памёр 21 сакавіка 547 г. і быў пахаваны ў Монтэ-Касіна каля магілы сваёй сястры-блізняці святой Схаластыкі. Святы з'яўляецца апекуном Еўропы і ўсяго Захаду, а таксама настаўнікаў і школьнікаў.

**16 ліпеня – успамін Найсвяцейшай Панны Марыі з гары Кармель (Маці Божай Шкаплернай).**

У XIV ст. на гары Кармель у Палесціне існаваў ордэн, чальцы якога, духоўныя сыны прарока Іллі, называлі сябе братамі Найсвяцейшай Панны Марыі. Кармеліты вялі жыццё, адданае малітве, працы і пакаянню, захоўваючы цноты чысціні, убоства і паслухмянасці. У канцы XIII стагоддзя ў сувязі з праследаваннямі з боку мусульманаў, рэлігійнымі войнамі з туркамі і заняпадам Касцёла на Святой Зямлі законнікі былі вымушаныя выехаць у Еўропу. Тут, у новым асяроддзі, перад малавядомым законам узнікла пагроза роспуску.

У такім цяжкім становішчы генерал закона Сымон Сток пачаў прасіць Марыю, каб Яна захавала прысвечаны Ёй закон. У адказ на шчырую малітву Марыя аб'явілася святому Сымону ў ноч з 15 на 16 ліпеня 1251 г. У акружэнні анёлаў, указваючы на шкаплер, асвяціла яго знакам свайёй Матчынай апекі, сказаўшы: "Гэта будзе прывілей для цябе і для ўсіх кармелітаў – хто ў ім памрэ, не зведае агню пякельнага". Пасля таго аб'яўлення зніклі ўсе перашкоды і закон пачаў пашырацца па ўсёй Еўропе.

Праз 70 гадоў Маці Божая аб'явілася Святому Айцу Яну XXII і, пацвярджаючы папярэднія прывілеі (асаблівую апеку ў зямным жыцці і пазбаўленне ад агню пякельнага), абяцала, што кожны, хто ў момант смерці будзе мець на сабе Яе шкаплер, у першую суботу пасля смерці будзе выведзены з чысцца ў неба.

**23 ліпеня – успамін святой Брыгіты, законніцы, апякункі Еўропы.**

Брыгіта нарадзілася ў 1303 годзе непадалёку ад Упсалы (Швецыя). У 13 гадоў яна выйшла замуж. У гэтым сужэнстве нарадзілася васьмёра дзяцей, сярод якіх – святая Кацярына Шведская.

Пасля пілігрымкі ў Санцьяга-дэ-Кампастэла муж Брыгіты ўступіў у кляштар, а пасля яго смерці і сама яна пажадала цалкам прысвяціць сябе Богу. Брыгіта мела багатае духоўнае жыццё і шмат містычных візій. Атрымаўшы ў падарунак ад караля надзел зямлі, заснавала на ім кляштар для новага закона – брыгітак. У 1370 г., праз дваццаць гадоў пасля заснавання, ордэн быў зацверджаны Папам і існуе да сённяшняга часу.

Брыгіта памерла ў Рыме 23 ліпеня 1373 г., адразу пасля пілігрымкі ў Святую Зямлю. Яна – апякунка пілігрымак, праз яе заступніцтва просяць аб лёгкай смерці .

**25 ліпеня – успамін святога Кшыштафа, які з'яўляецца апекуном кіроўцаў.**

У гэты дзень у каталіцкіх святынях адбываецца блаславленне кіроўцаў і асвячэнне транспартных сродкаў.

*Падрыхтавала* **_Марына Ткач_**



## На ліпень прыпадаюць дні нараджэння, імяніны і дні святарскіх пасвячэнняў у наступных святароў:

- **1 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Міхаіл Татарэнка** (Лужкі);
- **3 ліпеня** – імяніны адзначае **а. Тамаш Міка OP** (Віцебск);
- **5 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **а. Браніслаў Дашкевіч OP** (Віцебск); гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Раман Мурзіч** (Параф'янава);
- **6 ліпеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **кс. Аляксандр Баран** (Новалукомль);
- **7 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксандр Півавар** (Бешанковічы);
- **10 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Віталь Галец** (Лепель), **кс. Віталь Даніловіч MIC** (Орша);
- **14 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Віталь Даніловіч MIC** (Орша), **а. Міхаіл Ермашкевіч** OP (Віцебск);
- **15 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Уладзімір Заянчкоўскі** (Парыж), **Уладзімір Шымковіч** (Дуброўна);
- **16 ліпеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Генадзь Ляўкоў** (Дрысвяты), **кс. Аляксей Асон** (Ушачы);
- **20 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Чэслаў Курэчка MIC** (Росіца), **а. Чэслаў Куцмеж SCJ** (Варапаева);
- **22 ліпеня** – дзень нараджэння адзначаюць **кс. Яўген Міхайлаў** (Расоны), **а. Віталь Сапега OP** (Віцебск);
- **25 ліпеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначаюць **кс. Аляксандр Амяльчэня** (Ватыкан), **кс. Віталь Галец** (Лепель), **кс. Дзмітрый Рацько** (Празарокі), **кс. Павел Самсонаў** (Дунілавічы), **кс. Алексей Юркайць** (Шуміліна);
- **25 ліпеня** – імяніны адзначаюць **кс. Кшыштаф Коц'ян** (Віцебск), **кс. Яўген Міхайлаў** (Расоны), **кс. пралат Кшыштаф Мянкіна** (Мёры), **кс. Кшыштаф Сілкоўскі SCJ** (Шаркаўшчына);
- **28 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Андрэй Бульчак** (Паставы);
- **29 ліпеня** – дзень нараджэння адзначае **кс. Аляксей Юркайць** (Шуміліна);
- **30 ліпеня** – гадавіну святарскіх пасвячэнняў адзначае **а. Станіслаў Памыкала SJ** (Віцебск);
- **31 ліпеня** – імяніны адзначае **кс. Ігнат Санюта** (Ахрэмаўцы).

**Просім нашах дарагіх чытачоў памятаць пра малітву за гэтых святароў.**

*Падрыхтавала* **_Марына Ткач_**

## *Пахвалёны Езус Хрыстус!*

*Наш пробашч **ксёндз Павел Самсонаў** 16 чэрвеня адзначае дзень нараджэння, а 29 чэрвеня святкуе імяніны. Сардэчна віншуем яго і выказваем вялікую пашану і падзяку за натхнёную працу на Божай ніве, за шчырую, змястоўную духоўную навуку, якая дапамагае нам быць сапраўднымі хрысціянамі, за імкненне наблізіць нас да Пана Бога і стварыць адну дружную парафіяльную сям'ю. Дзякуючы штодзённым клопатам пробашча наша святыня прыгажэе: заканчваецца рамонт касцёла, тэрыторыя вакол яго цешыць вока вернікаў.*

*Зычым кс. Паўлу Божай апекі ва ўсіх яго справах і задумах, моцнага здароўя, сілы духу, радасці і любові ў сэрцы!*

***З малітвай і ўдзячнасцю вернікі Дунілавіцкай парафіі (Пастаўскі раён)***

## *Віншуем!*

*17 чэрвеня адзначае гадавіну святарскага пасвячэння наш **ксёндз Анджэй Бульчак**. Ён не так даўно працуе ў нашым касцёле, але вернікі палюбілі яго за добразычлівасць, шчырасць, за павагу да людзей і вернасць Пану Богу. Жадаем ксяндзу Анджэю здароўя і поспехаў у будаўніцтве новага касцёла.*

***Вернікі Пастаўскай парафіі***

## *Паважаны айцец Юрый Катовіч!*

З нагоды святкавання Вашых імянін ад усёй супольнасці каталіцкіх вернікаў прыміце самыя светлыя і сардэчныя віншаванні, шчырыя словы ўдзячнасці за нялёгкую працу і духоўнае служэнне ў парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах. Сеючы сярод людзей насенне дабра і прабачэння, Вы словам і прыкладам паказваеце нам Божыя сцежкі веры, надзеі і любові, адкрываеце таямніцы вечнай радасці. Праз жыццёвыя клопаты і цяжкасці, як сапраўдны пастыр, Вы праводзіце нас да нябесных брамаў.

Дзякуем Госпаду Богу за дар Вашага святарскага паклікання, за прысутнасць у нашай супольнасці, за вялікія намаганні дзеля духоўнага адраджэння беларускай зямлі, за шчырую працу, а таксама за малітву ў Докшыцах і яго ваколіцах.

Шаноўны наш айцец! Жадаем Вам моцнага здароўя, Божай мудрасці і бязмежнай міласэрнасці, адвагі і мужнасці ў супрацьстаянні нянавісці, гвалту, несправядлівасці і падману. Спадзяёмся на выкананне ўсіх Вашых планаў і задум на духоўнае ўзрастанне нашай парафіі. Жадаем, каб Маці Божая нястомна дапамагала Вам у нялёгкім служэнні Богу і народу. Міру і дабра Вам!

***З малітвай вернікі парафіі Святой Тройцы ў Докшыцах***

## Рэдакцыя дзякуе!

**Дарагія сябры!**

Шчыра дзякуем усім, хто падтрымлівае "Каталіцкі Веснік" сваімі артыкуламі і ахвяраваннямі.

Свае ахвяраванні нам даслалі: **Яніна Курулёва** *(Глыбокае)*, **Леанід Грыбач** *(Гомель)*, **Ірына Грыцкевіч** *(аг. Лясны, Мінскі р-н)*, **Вераніка Абуховіч** *(в. Дунілавічы)*, **Руфіна Адамовіч** *(в. Павяцце)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Аліцыя Трафімовіч** *(Паставы)*, **Антаніна Дарашкевіч** *(Паставы)*, **Вольга Парневіч** *(в. Крулеўшчына)*, **Соф'я Машара** *(Шаркаўшчына)*, **Рэгіна Латышонак** *(Шаркаўшчына)*, **Марыя Небышынец** *(в. Дубовы Лог)*, **Рэгіна Ракуцкая** *(Браслаў)*, **Яніна Дулінец** *(в. Савуткі)*.

Дзякуючы дапамозе нашых чытачоў мы можам друкаваць газету. За ўсіх ахвярадаўцаў выдання кожны месяц адпраўляецца св. Імша.

*Рэдакцыя "Каталіцкага Весніка"*

## *Хвала Хрысту!*

*Ад шчырага сэрца віншуем **ксяндза Яна Кароткіна** з нагоды гадавіны святарскага пасвячэння!*

*Шчыра жадаем усіх дароў Духа Святога, Божага бласлаўлення ў святарскім жыцці. Будзьце шчырым і праўдзівым, паважаны ксёндз Ян, у служэнні Богу і людзям, такім жа адказным, якім мы ведалі Вас яшчэ дыяканам, калі Вы працавалі ў Глыбоцкай парафіі!*

***Парафіяне касцёла Святой Тройцы ў Глыбокім***

## *Хвала Хрысту!*

*13 чэрвеня ў нашым касцёле адзначаецца парафіяльнае свята – фэст Святога Антонія, а таксама спаўняецца 25 гадоў святарскіх пасвячэнняў нашага пробашча, ксяндза-дэкана Анджэя Возьняка SCJ.*

*Ужо больш за 10 гадоў ён служыць Пану Богу і вернікам у нашай парафіі. Усе мы вельмі ўдзячныя нашаму паважанаму святару за шчырасць і адданасць у працы па аднаўленні касцёла, за яго высокія арганізатарскія здольнасці, за павагу да людзей і разуменне.*

*А 19 чэрвеня ў нашага пробашча Дзень нараджэння. Вось з гэтымі цудоўнымі датамі ўсе мы – святары, сёстры і парафіяне – віншуем яго і жадаем моцнага здароўя, плёну ў працы на карысць нашага святога Касцёла, Божага блаславення і апекі Маці Божай.*

***З павагай і ўдзячнасцю ўся Пастаўская парафія***

## Усміхніцеся!

Аднойчы правадыр племені прыйшоў у касцёл і сказаў, што вырашыў стаць хрысціянінам.

– Ты напаўняеш радасцю маё сэрца, – яму на гэта святар. – Але ў цябе дзве жонкі. Патрэбна, каб ты адмовіўся ад адной з іх.

– Добра, я так і зраблю, – адказаў правадыр, – але толькі калі Вы пакажаце мне хоць адно месца ў Біблії, дзе асуджаецца дваяжонства.

– "Ніхто не можа служыць двум гаспадарам", – працытаваў святар.

* * *

**Хрысціянін і агностык вялі дыскусію на тэму існавання Бога. Хрысціянін усяляк спрабаваў пераканаць агностыка, што Бог усё ж ёсць.**

**Агностык, пасля доўгіх спрэчак, гаворыць:**

**– Ну, добра, няхай Бог сапраўды ёсць, але я да гэтага часу жыў без Яго, і жылося нармальна!.. Значыць, без Бога можна жыць!**

**– Жыць можна, але не паміраць!..**

* * *

Унучка атрымлівала ў касцёле падарунак на Божае Нараджэнне.

Дзядуля:

– А што, калі я прыкінуся маленькім, мне таксама дадуць падарунак?

Унучка:

– Дзядуля, так несправядліва!

Дзядуля:

– Тады мы твой падарунак раздзелім!

Унучка:

– Дзядуля, ідзі прыкідвайся, я пажартавала...



# Падзяка з Чашнікаў

З вялікай радасцю і сардэчнай пяшчотай мы, вернікі касцёла Перамянення Панскага ў горадзе Чашнікі, дасылаем гэты ліст-віншаванне нашым дарагім святарам.

**Шчыра віншуем з Днём нараджэння першага біскупа зямлі Віцебскай Уладзіслава Бліна.** Гэта чалавек шчырай дабрыні, просты і адкрыты, з сардэчнай адданасцю справам Каталіцкага Касцёла. Вельмі захапляльнымі і запамінальнымі для вернікаў чашніцкага касцёла засталіся сустрэчы з біскупам Уладзіславам Блінам, яго прамовы, яго жаданне дапамагчы людзям. Насзаўсёды ўразвала яго шчырасць, захапляла непасрэднасць, ажыўляла душы малітва. Сваім ахвярным служэннем Богу і людзям біскуп Уладзіслаў заслужыў любоў і павагу парафіян. І, безумоўна, неацэнная роля першага біскупа ў ажыццяўленні даўніх планаў вернікаў горада – пабудове касцёла. Мы добра ведаем, што і ў іншых рэгіёнах пад кіраўніцтвам таленавітага арганізатара і будаўніка адбывалася ўзвядзенне каталіцкіх святынь, якія яшчэ доўга будуць служыць нашым нашчадкам, з'яўляюцца месцам спаткання з Богам, дзе вернікі імкнуцца да дасканалага жыцця. А жыццё яскрава паказвае, што шмат людзей знаходзіць Бога дзякуючы прыкладу тых, хто на заклік Хрыста самааддана служыць іншым, дапамагае сваёй ласкай, сваім натхненнем.

Нашы шчырыя, сардэчныя пажаданні найхутчэйшага выздараўлення, моцы духа Вам, дарагі наш біскуп Уладзіслаў! Няхай Міласэрны Бог дапаможа пераадолець усе цяжкасці і выпрабаванні, якія выпалі на Вашу долю. Няхай Госпад заўжды дапамагае і абараняе, а Маці Божая няспынна заступаецца. Верных і добрых Вам вучняў, прадаўжальнікаў усіх Вашых спраў, якія будуць працягваць духоўнае адраджэнне зямлі Віцебскай!

Мы таксама **дзякуем Усемагутнаму Богу за нашага былога пробашча ксяндза Анджэя Бульчака**, які зараз ажыццяўляе душпастырскую паслугу ў Паставах. Шчыра **віншуем нашага ксяндза Анджэя з гадавінай святарскіх пасвячэнняў**. Ксёндз Анджэй шмат рабіў дзеля таго, каб парафіяне захавалі ў сваіх сэрцах веру, пранеслі яе праз усё жыццё і перадалі наступным пакаленням. Стваральная праца святара на працягу шасці гадоў, якія былі напоўнены справамі велічнымі і міласэрнымі, відавочная. За час сваёй працы ў нашай парафіі ксёндз Анджэй праявіў сябе як адданы Касцёлу і людзям святар, выдатны слуга Бога, чалавек светлы і адкрыты. Усе парафіяне ўдзячныя яму за пабудову нашай святыні, якую 6 жніўня 2014 года асвяціў біскуп Алег Буткевіч.

Дзякуем, шаноўны ксёндз Анджэй, за Вашу плённую працу на карысць нашай парафіі, за разуменне, за малітву і дапамогу.

Таксама **выказваем падзяку і шчыра віншуем з Днём нараджэння ксяндза Аляксандра Барана з Новалукомля**, які на працягу многіх гадоў прыязджаў і прыязджае да нас цяпер. Заўсёды імклівы, актыўны, з вялікім вопытам душпастырскай дзейнасці, ксёндз Аляксандр імкнецца ахінуць сваім клопатам усіх вернікаў. І мы яму за гэта вельмі ўдзячныя.

Нізка кланяемся і дзякуем усім святарам за працу ў нашай парафіі! Складаем усім найлепшыя пажаданні, зычым Божай ласкі і плёну на доўгія гады!

***З павагай і ўдзячнасцю парафіяне г. Чашнікі***

## *Ліст з Германавіч*

## Пахвалёны Езус Хрыстус!

Паважаная рэдакцыя газеты "Каталіцкі Веснік"! Звяртаюцца да Вас вернікі парафіі Перамянення Пана з мястэчка Германавічы. Мы хочам перадаць **сардэчныя віншаванні з нагоды дня нараджэння, які выпадае на 3 чэрвеня, нашаму паважанаму ксяндзу Яну Пугачову.** Вось ужо 15 гадоў, з якіх пяць прысвечаны нашай парафіі, крочыць па нялёгкай дарозе святарства гэты шчыры, добразычлівы і адданы Богу чалавек, які выкладвае ўсю сваю душу для таго, каб мы зразумелі, што самае галоўнае ў нашым жыцці – гэта Бог. Гэта сапраўдны пастыр, які ўласным прыкладам вызнання Веры і абвяшчэння слова Божага вядзе нас па дарозе Праўды.

Ксёндз Ян вельмі мудры і тактоўны чалавек, якому можна даверыць усе свае праблемы і перажыванні і які заўсёды дапамога разабрацца ў самай складанай жыццёвай сітуацыі, дасць карысную параду і падтрымае малітвай.

Мы вельмі ўдзячныя святару Яну за нашых дзетак. З дапамогай урокаў катэхезы, каторыя вядзе сам, ён вучыць іх любові да бліжняга, да Бога, і робіць усё для таго, каб яны выраслі вернікамі і добразычлівымі людзьмі, здольнымі бачыць не толькі свае праблемы, але і праблемы свайго бліжняга, чаго зараз так не хапае ў нашым жыцці. Не пералічыць усё тое добрае, што нясе ў жыццё нашай парафіі гэты святы чалавек – наш ксёндз.

Таму ад шчырага сэрца жадаем Вам, паважаны ксёндз Ян, каб добры Бог і надалей дапамагаў Вам ва ўсіх справах. Хай Ён узнагародзіць Вас за добрае шчырае сэрца, за павагу да кожнага чалавека! Няхай Маці Божая ахінае Вас сваёй любоўю і апекай і напоўніць радасцю кожны дзень Вашага няпростага служэння Богу і людзям!

Жадаем Вам натхнення ў штодзённых справах, моцы і мужнасці ў выпрабаваннях, а таксама моцнага здароўя. Атуляем Вас нашай любоўю і штодзённай малітвай!

***З вялікай павагай і ўдзячнасцю вернікі Германавіцкай парафіі***

# Паломніцтва да святых мясцін...

**З глыбокай старажытнасці хрысціяне выпраўляліся ў падарожжа, каб убачыць месцы, звязаныя з зямным жыццём Збаўцы, а таксама наведаць месцы аб'яўленняў Маці Божай, жыцця і дзейнасці Святых. Мільёны людзей імкнуліся апынуцца там, каб узнесці словы малітвы, падзякі і просьбы. Колькасць паломнікаў расла з году ў год, і ў цяперашні час цікавасць да паломніцтваў не згасае.**



І не дзіўна, што ўсё больш людзей становіцца на шлях самапазнання і духоўнага развіцця, звяртае свой позірк да Бога. Да таго ж паломніцтва з'яўляецца наймагутным інструментам у духоўным развіцці чалавека, паколькі дазваляе на час адысці ад зямных падзей і цалкам засяродзіцца на Богу, што ў сваю чаргу спрыяе магутнаму духоўнаму ўздыму падчас паломніцтва.

Але жыццё ідзе, і ў дадатак да пешых падарожжаў прыйшлі паломніцтвы, якія магчыма ажыццявіць на камфартабельным аўтобусе ці на самалёце.

Парафія Св. Язафата Кунцэвіча ў Расонах запрашае Вас прыняць удзел у пілігрымках (паломніцтвах) і падарожжах да святых і гістарычных месцаў Заходняй Еўропы і Ізраіля, якія прыцягваюць людзей з розных куткоў усяго свету, выклікаюць захапленне і прыносяць духоўнае ўзбагачэнне.

Мы прапануем пілігрымкі да святынь Еўропы: Фаціма, Лурд, Рым (Ватыкан), Падуя, Чэнстахова, Ліхень… У час вандровак Вы зможаце не толькі памаліцца ў святынях Еўропы, але і ўзбагаціць свой досвед агляднымі экскурсіямі ў Кёльне, Парыжы, Лісабоне, Барселоне, Падуі, Венецыі, Празе.

**Мы запрашаем Вас у наступныя пілігрымкі:**

**з 1 па 11 жніўня 2015 года** – пілігрымка ў Падую да Базілікі Святога Антонія.

Маршрут: Мінск – Кракаў – Вена – Рыміні / Рыміні – Падуя – Венецыя – Браціслава – Мінск

Кошт: 480€ + VISA

**з 12 па 26 жніўня 2015 года і з 30 верасня па 15 кастрычніка 2015 года** – пілігрымка да месца аб'яўлення Маці Божай у Фаціме (Партугалія).

Маршрут: Мінск – Ліхень – Кёльн – Парыж – Лурд – Санцьяга-дэ-Кампастэла – Фаціма / Фаціма – Барселона – Чэнстахова – Мінск.

Кошт: 680€ + VISA

**з 17 па 23 жніўня 2015 года** – пілігрымка на зямлю Св. Брыгіты, апякункі Еўропы (Швецыя).

Маршрут: Мінск – Талін – Хельсінкі – Стакгольм – Рыга – Аглона – Мінск.

Кошт : 430€ + VISA (60€)

Таксама прапануем Вас далучыцца да цікавага падарожжа **ў Германію з 13 па 23 ліпеня 2015 года**, падчас якога Вы зможаце не толькі адпачыць, але і атрымаць унікальную магчымасць пазнаёміцца з разнастайнасцю еўрапейскай культуры. Праграма пілігрымкі прадугледжвае чатырохразовае харчаванне і размяшчэнне ў адным гатэлі на ўвесь час пражывання. Вам гарантавана добрая кампанія, суправаджэнне групы высокапрафесійным гідам, а таксама насычаная экскурсійная праграма.

І, нарэшце, Святая Зямля – Ізраіль.

У гэтым годзе Вы таксама маеце выдатную магчымасць наведаць незвычайную краіну – Ізраіль. Мы прапануем **пілігрымкі на Святую Зямлю:**

**з 17 па 28 жніўня** на 11 начэй з адпачынкам на моры;

**з 20 верасня па 1 кастрычніка** на 11 начэй з адпачынкам на моры;

**з 18 па 29 кастрычніка** на 11 начэй з адпачынкам на моры, а таксама

**з 24 верасня па 1 кастрычніка** запрашаем Вас у Нацыянальную пілігрымку на Святую Зямлю "Магніфікат" (7 начэй), падчас якой адбудзецца ўрачыстая св. Імша з асвячэннем табліцы з тэкстам «Magnificat» і «Benedictus» на беларускай мове.

У ходзе пілігрымкі Вы ўбачыце Ерусалім, Назарэт, Віфлеем, Хайфу, Галілейскае і Мёртвае моры, раку Іардан, гару Фавор, Кану Галілейскую і многае іншае.

Сотні паломнікаў з Беларусі наведалі з намі Ізраіль за апошнія некалькі гадоў. Перавага паломніцтва з намі ў тым, што духоўнае ўзбагачэнне падчас знаходжання ў святых месцах можна сумясціць з адпачынкам і культурна-пазнавальнай праграмай. Кожную пілігрымку суправаджае святар.

Больш падрабязна з праграмамі пілігрымак можна азнаёміцца на нашым сайце www.piligrymka.by, а таксама па наступных тэлефонах:

Velcom (29) 602-00-98, МТС (29) 708-00-78

### Даведка пра арганізатараў пілігрымак

Рыма-каталіцкая парафія св. Язафата Кунцэвіча ў г.п. Расоны з'яўляецца афіцыйным арганізатарам паломніцкіх аўтобусных тураў па святых месцах Еўропы і авіятураў у Ізраіль на Святую Зямлю. Досвед працы ў арганізацыі пілігрымак – больш за шэсць гадоў. Сваіх прадстаўнікоў мы маем у Мінску, Віцебску, Полацку і іншых гарадах Беларусі. Сёння таксама можам прапанаваць больш за дзясятак цалкам прапрацаваных маршрутаў па святых месцах: паломніцтва ў Ізраіль, пілігрымку да Маці Божай у Лурд (Францыя) і ў Фаціму (Партугалія), да труны св. апостала Якава ў Санцьяга-дэ-Кампастэла (Іспанія), па месцах місійных вандровак св. апостала Паўла (Мальта), па слядах св. Кірыла і Мяфодзія (Чэхія), пілігрымка ў Рым/Ватыкан да месца пахавання св. Язафата Кунцэвіча (Польшча, Аўстрыя, Італія).

Арганізатары пілігрымак не пераследуюць камерцыйных мэтаў. З усімі маршрутамі паломніцтваў можна азнаёміцца на афіцыйным сайце парафіі: www.piligrymka.by.

## Свята Першай Камуніі ў Віцебску



Удзельнікі ўрачыстасці ў парафіі Святога Духа ў Віцебску, 14.06.2015



Каталіцкі ВЕСНІК
Газета Віцебскай дыяцэзіі

**Заснавальнік:** мясцовае рэлігійнае аб'яднанне «Віцебская дыяцэзія Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь»

**Выдавец:** рэлігійная місія «Дабрачыннае каталіцкае таварыства «Карытас» Віцебскай дыяцэзіі Рымска-каталіцкага Касцёла ў Рэспубліцы Беларусь

**Галоўны рэдактар:** кс. Віктар Місевіч
**Тэхнічны рэдактар:** Дзмітрый Лупач
**Рэдактар сайта:** Марына Сінкевіч
**Карэктары:** Юрась Бабіч, Алена Пажога

Газета набрана і звярстана на настольна-выдавецкім комплексе рэдакцыі газеты «Каталіцкі Веснік», перададзеная па каналах сувязі і надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня», г. Віцебск, вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4
Заказ 3830

Выходзіць адзін раз на месяц на беларускай і рускай мовах
Тыраж 3100 экз.
Аб'ём 4 друкаваныя аркушы, фармат А3
Афсетны друк
Падпісана ў друк 17.06.2015 г. у 10.40

**Юрыдычны адрас:** 210041, г. Віцебск, вул. Чкалава, д.52, корпус 1
Тэл./факс: 8(0212)25-29-31
**Адрас для карэспандэнцыі:** 211800, вул. Савецкая, д.1, г. Глыбокае, Віцебская вобл.
Тэл.: 8(029)736-53-07
e-mail: katalickivesnik@gmail.com
http://catholicnews.by

ISSN 2224-9621

Наш падпісны індэкс 63783

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродка масавай інфармацыі №1437 ад 5 красавіка 2011 года выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь